© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 3 (1914) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 17 СТУДЗЕНЯ 1993 г. ЦАНА 2500 зл.

## ЗАЙГРАЙ, ЗАЙГРАЙ ХЛОПЧА МАЛЫ...

Падчас урачыстага адкрыцця новага школьнага будынка ў Орлі, настаўнікаў і вучняў віншаваў прадстаўнік Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь - галоўны спецыяліст аддзела навучальных установаў і кадраў Аляксандр Сасновіч. Падарыў ён дзецям кніжкі і салодкія ласункі ды паабяцаў школе падарунак сапраўды каштоўны - музычныя інструменты. Гэтыя інструменты - 8 піяніна, 12 цымбалаў, 11 баянаў - меліся б стаць падставай для ўтварэння класаў з пашыранай праграмай музыкі або і цэлае музычнае школы.

Ідэя стварыць музычную школу на Беласточчыне выспела ў кантактах Беларускага грамадска-культурнага таварыства з Міністэрствам культуры Беларусі. Бакі дамовіліся так, што Міністэрства купіць інструменты і знойдзе выкладчыкаў, якія змогуць прыехаць у Польшчу на працу, а БГКТ, у міжчасе, падшукае адпаведную школу ў нас і аформіць усё патрэбнае дзеля адкрыцця музычных класаў.

Інструменты былі куплены ў Менску. Настаўнікі таксама знайшліся. Аказалася толькі... што нічога для іх не падрыхтавана. Нават ангажаваць гэтых настаўнікаў нельга, бо справу зарплаты для іх вырашае Варшава, а дакладней Міністэрства нацыянальнай адукацыі Польшчы. Невядома таксама ў якую школу даставіць гэтыя інструменты. Няма, урэшце, абяцанага беластоцкім бокам транспарту. Закупленыя інструменты стаяць у адным з ліцэяў сталічнага Менска /дзякуючы гасціннасці дырэктара/ і чакаюць, пакуль вырашыцца іх лёс.



*Цымбалісткі з Дзіцячай мастацкай школы ў Менску паказаліся як сапраўдныя прафесіяналісткі.*

Калі прадстаўнікі Міністэрства культуры Беларусі прыехалі на Беласточчыну першы раз, каб паінфармаваць, што яны абяцанне выканалі, скіравалі іх у Пачатковую школу н-р 3 у Бельску. Там аднак, як чытачы пэўна ведаюць, такая цесната /навучанне вядзецца на тры змены/ і столькі клопатаў з пабудовай гімнастычнай залы, што ўсім да шчасця не хапае толькі піяніна і цымбалаў.

Другім разам дэлегацыя з Беларусі падалася ў Орлю. Апрача прадстаўніка Міністэрства культуры Аляксандра Сасновіча, былі таксама вучні і настаўнікі Дзіцячай мастацкай школы горада Менска. Пасялілі іх у стары школьны будынак, балазе якраз адчынялася новая школа ў Орлі. Госці далі на Беласточчыне чатыры цудоўныя канцэрты: у бельскай "тройцы", у школах у Орлі і Пашкоўшчыне ды ў клубе ў Крывяцічах. Паказалі яны высокае музычнае мастацтва, цудоўна спявалі ды гралі на цымбалах і баянах.

Ці нашыя дзеці змогуць пайсці следам менскіх аднагодкаў? Ці ў Орлі паўстане музычная школа?

Аляксандр Сасновіч пачаў ужо сумнявацца. Калі ён размаўляў з Янкам Сычэўскім - намеснікам старшыні ГП БГКТ - той запрапанаваў, каб адно піяніна і цымбалы перадаць у Беларускі музей у Гайнаўцы. "Я баюся, што гэтыя інструменты, - кажа спадар Сасновіч, - будуць расцягнуты ў розныя месцы. Мы гэтага не хочам, бо куплялі іх дзеля аднае, яснае мэты - адкрыць беларускую музычную школу на Беласточчыне. Памятайце, што калі гэтага не будзе цяпер, больш такі шанц не паўторыцца".

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
/фота аўтара/

## ШПРЫЦУЮЦЬ ТРАДЫЦЫЙНЫМІ ВАРТАСЦЯМІ

Калі ў 1973 бацькі купілі тэлевізар, прайшло шмат-шмат часу, пакуль я асвоіўся з гэтым тэхнічным вынаходствам. Спачатку хацелася глядзець у ім усё. Пасля некаторага часу, з увагі на паўтаральнасць перадач гэтак званага грамадска-сацыялагічнага характару, прыйшла натуральная селекцыя таго, што ў тэлевізары аглядаецца. Найбольш прыцягальнымі ў канцы аказваюцца заўсёды фільмы. Паводле іх можна ўстанавіць самыя папулярныя гадзіны прыёму ва ўсім тыдні. І так, здаўна ўсе мы прызвычаіліся, што ў чацвер вечарам - дэтэктыў, у суботу - ажно два фільмы, а ў сераду /было гэта аднак за папярэдняе ўлады/ - клуб амбітнага фільма. Увесь гэты парадак, як бы ён ні вызначаўся, адмяняецца ў святочны перыяд - прыкладам каталіцкія Каляды. Тут, прынамсі за папярэдняй улады, прапанавалася гледачу сапраўды багаты выбар разнастайных перадач, з мностам замежных фільмаў.

Сённяшнім часам, праўду кажучы, фільмы ўзнікаюць толькі ў Амерыцы - там фільмовае мастацтва набыло характар прамысловасці. За апошнюю дэкаду Амерыка звычайна заліла цэлы свет сваёй прадукцыяй, спіхаючы ў маргінальнасць фільмовае мастацтва ў паасобных краінах. У амерыканскім кіно дамінуюць гэтак званыя фільмы дзеяння / англ. action film/, якія сваёй папулярнасцю пабілі ўсё іншае. Сведчыць аб гэтым, хаця б, і прыбытак ад іх. Да нас дайшлі яны з некаторым спазненнем - маю тут на ўвазе кіно і тэлебачанне, а не відэакасеты. Калі пару гадамі таму дапусцілі ў варшаўскае кіно Шварцэнэгера, публіка пабіла ўсялякія рэкорды. Крытыка скаментавала гэты факт даволі стрымана - "шкада, што фільм гэты не адзначаецца высокімі мастацкімі вартасцямі". Дык, што ў такім выпадку вырашыла аб велізарнай папулярнасці гэтага і падобных яму фільмаў? Перш за ўсё яны дасканалыя тэхнічна /аб такой дасканаласці толькі б памарыць краёвым прадуцэнтам/. Па-другое, усе яны абапіраюцца на простай схеме - адораны непахіснымі маральнымі якасцямі герой сам адзін супрацьстаіць скарумпаванай рэчаіснасці, канчаткова яе перамагаючы. Інакш кажучы, прапагандуецца ў гэтых фільмах культ індывідуальнасці, духоўнасць якой перамагае недасканалую матэрыю. Такая схема - перамога справядлівасці над несправядлівасцю, дабра над злом - апрацоўваецца ў тысячах варыянтаў амерыканскіх фільмаў. Іхняя ж папулярнасць - гэта не што іншае, як ідэнтыфікацыя гледача з героем.

Традыцыйныя вартасці прапагандуюцца і ў польскім тэлебачанні. Асабліва шпрыцаванне імі адчуваю ў святочныя перыяды. Дамінацыя духа над матэрыяй у хрысціянскай культуры прадстаўляецца нашым тэлебачаннем не як вынік свядомага дзеяння чалавека, а як кананічную аксіёму, Божую ласку. Адлюстраваннем польскага падыходу да традыцыйных вартасцяў з'яўляецца і краёвая фільмовая прадукцыя. Бескампрамісная рэчаіснасць найчасцей забівае ў героі волю дзеяння, нараджаючы, такім чынам, адчуванасць і востры псіхалагічны канфлікт з асяроддзем.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

## АЦАНЯЛІ „НІВУ"

28 снежня 1992 г. у нашай рэдакцыі сабралася на трэці свой сход (папярэднія адбыліся ў жніўні і верасні) Праграмная рада тыднёвіка „Ніва" — цяперашні выдавец газеты. Нагадаю, што ў Праграмную раду ўваходзяць па тры прадстаўнікі ад пяці беларускіх арганізацый у Польшчы: Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", Беларускага аб'яднання студэнтаў, Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, Звязу беларускай моладзі і Асацыяцыі беларускіх журналістаў. Старшынёй Рады з'яўляецца Ян Чыквін (ён жа адначасова і старшыня „Белавежы"). Снежаньскі сход агульна быў прысвечаны ацэнцы чатырохмесячнай працы рэдакцыйнага калектыву пад кіраўніцтвам новага галоўнага рэдактара Яўгена Мірановіча.

Яўген Міррановіч паінфармаваў прысутных аб юрыдычнай і матэрыяльнай сітуацыі „Нівы". Усё яшчэ працягваецца рэгістрацыя тыднёвіка ў Ваяводскім судзе ў Беластоку (актуальна справа разглядаецца Апеляцыйным судом). Не афармленне перарэгістрацыі „Нівы" ў свой час пасля роспуску прадпрыемства РСВ напрыканцы 1989 г. давяло пасля двух гадоў да юрыдычнай блытаніны — нягледзячы на згоду спонсара газеты, Міністэрства культуры і мастацтва, ды Ліквідацыйнай камісіі РСВ на перарэгістрацыю, суд усё яшчэ па незразумелых прычынах зацягвае канчатковае ўладжанне справы. На сходзе была прынятая пастанова зарэгістраваць выданне „Беларускі тыднёвік „Ніва" і скарыстаць гэтую назву для далейшага выдавання газеты, калі Апеляцыйны суд адхіліць просьбу аб рэгістрацыі „Нівы". У віньеце газеты мала што змянілася б — трэба было б адно зняць падзагаловак „Тыднёвік беларусаў у Польшчы", а на ягонае месца паставіць — „Беларускі тыднёвік".

Матэрыяльны бок выдавання „Нівы" даволі незайздросны. Газета ўваходзіць у новы год з немалым даўгом (для друкарні і за карыстанне памяшканнямі). Каб паправіць сітуацыю ў будучыні, разглядаецца магчымасць друку „Нівы" у Горадні. Няма, аднак, упэўненасці, што пры такім вырашэнні справы газета будзе своечасова пастаўляцца на Беласточчыну. Забранне камп'ютэраў з „Нівы" гэтаксама дало адчувальнае павелічэнне кошту друку — рэдакцыя дадаткова аплочвае мантаж здымкаў і ілюстрацый, які раней рабіўся ўласнымі сіламі на сканеры ў рэдакцыі.

Аб змесце газеты і яе праграмным накірунку шырока выказаўся Георгій Валкавыцкі, шматгадовы галоўны рэдактар „Нівы". Ён падкрэсліў, што „Ніва" ў асноўным далей павінна арыентавацца на вёску, таму што ў гарадскім асяроддзі зашмат новых

☞ *Працяг на стар. 6*

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Podczas trwającej debaty sejmowej legendarny Jacek Kuroń gromi uczestników protestów niczym Gierek latem 1980 roku, a posłowie Zjednoczenia Chrześcijańsko-Narodowego żądają, by nadzwyczajne, poświąteczne posiedzenie Parlamentu poświęcić miast dramatycznej sytuacji kraju ustawie o aborcji. Lider „bogobojnych" oskarża posłów Konfederacji Polski Niepodległej o tajne przymierze z postkomunistycznym Sojuszem Lewicy Demokratycznej (...). Ma też pretensje do swoich partnerów z koalicji rządowej, czyli do liberałów, o szykowanie rozłamu i mamrocze o wykopywaniu topora wojennego. Sytuacja przestała już przypominać przysłowiowy dom wariatów. Raczej przybytek, w którym uprawiany jest najstarszy zawód świata.*
*(Gazeta Polska, nr 1 (95))*

Новы год пачынаецца па-старому.

* * *

*Działacze partii chrześcijańskich i skini stoją z kolei na stanowisku, że rodzić się powinno dzieci bezwzględnie więcej. Jest to niewątpliwie podyktowane ich sytuacją kadrową, ponieważ osoby, które by ich popierały, istotnie się nie narodziły.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 292)*

* * *

*Będziemy strzelać do bezpańskich psów i kotów, wałęsających się po mieście* — вырашылі ў Ольштыне.
*(Gazeta Wyborcza, nr 292)*

У Балівіі, Парагваі, Сальвадоры і пару іншых мясцінах пачыналі таксама ад сабак.

* * *

*Przeciętna Polka ma 49 lat, przy wzroście 162 waży 66 kg, czyli ma nadwagę. Kto jest winien? Oczywiście mężczyźni, którzy kochają swoje żony takimi jakie są. Mężatką jest co trzecia dorosła Polka, wdową co szósta, rozwódką co dwudziesta piąta, a co dwunasta jest panną. ZChN może spać spokojnie.*
*(Polityka, nr 52)*

* * *

*Białoruś planuje budowę elektrowni atomowej, aby uniezależnić się od dostaw energii z Rosji.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 302)*

Але ядзернае паліва для гэтай электрастанцыі давядзецца, усё-такі, прывозіць з Расеі... Не так лёгка адчапіцца ад „старэйшай сястры".

* * *

*Gdyby Jezus Chrystus pod postacią bezdomnego próbował spędzić Wigilię wśród dziesięciu szczecińskich rodzin, zastał by drzwi zatrzaśnięte. Od jednej otrzymał by poczęstunek w progu mieszkania. Do stołu świątecznego zaprosiłby go tylko poseł SLD.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 306)*

Значыць, хрысціянізацыю можна пачынаць з нуля.

* * *

***Апошнім часам у нашых суайчыннікаў узрос інтарэс да замежных паездак. Калі за ўвесь мінулы год у турыстычных падарожжах па краінах Захаду пабывалі 23.374 жыхары Брэстчыны, то за 11 месяцаў гэтага іх аказалася ўжо 98.500.***
*(Звязда, н-р 250)*

Бо Захад для жыхароў Брэстчыны, аказваецца, не за гарамі, а ўжо каля Чаромхі-Станцыі.

* * *

***... Сёлета знікла з вайсковых складоў 14 кулямётаў. (...) Аўтаматаў у 1991 годзе выкрадзена 9, у гэтым — 12, знойдзена 9, пісталетаў — 4, сёлета — 3, знойдзена 2, на гранаты пакваліліся толькі сёлета і адразу знеслі 91, знойдзена 65, міны і снарады сталі аб'ектам крадзяжу таксама толькі сёлета. (...) У адным дывізіёне Віцебскага гарнізона начальнік палігона быў саўдзельнікам адпраўкі ў Літву 3,5 тоны медзі. (...) Мінскі каапэратыў „Пірыт" закупіў і вывез з тэрыторыі ракетнага арсенала 500 тон стратэгічнага высакаякаснага алюмінію.***
***(Звязда, н-р 249, з інтэрв'ю начальніка ўпраўлення контрразведкі КДБ Беларусі).***

Летам у Рыбалах аўтамат Калашнікава прапанавалі за 1,5 мільёна злотых.

* * *

*Na ogólnopolskich targach staroci, organizowanych w Warszawie, Gdańsku, Katowicach i Wrocławiu, najlepszymi klientami są Niemcy (...). Najbardziej poszukiwane przez Niemców jest dzieło Hitlera "Mein Kampf". Za tę książkę Niemiec gotów jest zapłacić 300-400 marek - twierdzi jeden z handlarzy. Autentyczny znaczek partyjny NSDAP kosztuje 150 tys. zł, a Hitlerjugend - 100 tys. Za repliki płaci się 30-40 tys.*
*— Nazistowskie znaczki - opowiada warszawiak - zacząłem wetwarzać ze znajomymi przed dwoma laty. Wtedy był to niezły interes. Teraz Niemcy szukają przede wszystkim oryginałów, a te są już rzadkością. Wiele jest oznak wymyślonych obecnie, które nigdy nie miały pierwowzorów. (...) Przy jednym ze stolików polskie małżeństwo kupuje 50 znaczków. Na prezenty dla znajomych w Niemczech - wyjaśniają.*
*Gazeta Wyborcza nr 6*

Усім, якія думаюць пра будучыню, перш за ўсё эканамічную, сваіх дзетак, раім добра схаваць адзнакі камсамола, ЗСМП, ПАРП і бляшкі з добрымі вачамі Ільіча.

# З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Рада Міністраў** вырашыла накіраваць у Сейм прапанову прысвоіць ёй права выдаваць дэкрэты з сілай закона. Дэкрэты датычылі б пяці самых найважнейшых праграм, якія падрыхтаваў цяперашні ўрад. Дэталі і час спецыяльных паўнамоцтваў будуць неўзабаве апрацаваны. Праект пастановы ў гэтай справе будзе перададзены ў Сейм яшчэ ў студзені.

**Прэм'ер-міністр Ганна Сухоцка** запрапанавала прэзідэнту РП кандыдатуру **праф. Збігнева Кляйнэрта** - геамарфолага і гляцыёлага з універсітэта ў Лодзі, члена ЗХН - на пост міністра культуры і мастацтва. Зараз, згодна малой канстытуцыі, па прапанове прэм'ер-міністра прэзідэнт можа ўводзіць змены на пасадах паасобных міністраў. На практыцы абазначае гэта, што кандыдатура не будзе разглядацца сеймавай камісіяй і не мусіць яна зацвярджацца Сеймам.

**Сеймавая Камісія па справах нацыянальных і этнічных меншасцяў** разглядала пытанне школьніцтва і навучання родных моў для гэтай часткі грамадства. Асаблівую ўвагу паслоў прыцягнула нямецкая меншасць і справа помнікаў, прысвечаных памяці нямецкіх салдат - удзельнікаў I і II сусветных войнаў. Старшыня парламенцкага гурту паслоў ад нямецкай меншасці **Генрых Кроль** сказаў, што сапраўды нямецкая меншасць з'яўляецца цяжкай меншасцю і выступіў з заклікам, каб у агульным плане бачыць пазітыўныя бакі гэтай грамадскасці, а не толькі паасобныя негатыўныя з'явы. Апольскі ваявода **Рышард Зембачынскі** паінфармаваў аб стварэнні адмысловай камісіі, якая займецца мадыфікацыяй формы і зместу помнікаў нямецкім салдатам.

**Вернікі літоўскай нацыянальнасці** з рымска-каталіцкай парафіі ў Пунску ставяць касцельным уладам закід, што тыя хочуць выцясніць іх з Пунска і Сейнаў у новапабудаваны касцёл у Відугерах. Створаны ў мінулым годзе з прадстаўнікоў звыш дзесяці вёсак прапэстацыйны камітэт намерваецца байкатаваць традыцыйную паслясвяточную каляду, падчас якой духоўныя наведваюць з малітвай дамы сваіх парафіян.

**Беларускія ўлады** ўвялі ў 1993 годзе змены ў пашпартнай сістэме, у выніку чаго можна спадзявацца часовага змяншэння ліку службовых камандзіровак з Беларусі ў Польшчу. Згодна новаму распараджэнню, уласнікі службовых пашпартоў мусяць іх перарэгістраваць. Рашэнне аб перарэгістрацыі было прынята на тры дні перад канцом года, у выніку чаго перад беларускім МЗС стварыліся чэргі за штампамі. Уласнікі прыватных пашпартоў павінны перарэгістраваць іх да 1 ліпеня г.г. Пасля перарэгістрацыі пашпартоў грамадзяне Рэспублікі Беларусь будуць свабодна выязджаць за мяжу /зносіцца абавязак атрымоўваць згоду АВІРа на кожны выезд/.

**З 1 студзеня 1993 г. польскім грамадзянам** у службовыя камандзіроўкі трэба ездзіць з прыватнымі пашпартамі /з канцом снежня мінулага года службовыя пашпарты страцілі сапраўднасць/. У выпадку камандзіроўкі ў Беларусь, Украіну або Расію трэба ў пашпарт атрымаць штамп АВ. Калі хто паедзе службова без такой пячаткі, трэба будзе яму купіць на граніцы ўязную візу за 54 амерыканскія долары.

**Каўказскую аўчарку** купіў два месяцы таму назад на базары ва ўсходніх гандлярoў жыхар Беластока. Дома шчанюк не хацеў піць малака, а толькі еў мяса, і не брахаў. Пасля нядаўняга візіту ў ветэрынара выявілася, што беластачанін гадуе не сабаку але... белага мядзведзя.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ „НІВЕ"

- ✓ Ці будзе музычная беларуская школа ў Бельску?
- ✓ Мікола Ваўранюк без энтузіязму ацэньвае "Бацькаўшчыну".
- ✓ Гайнаўшчына на здымках Уладзіслава Завадскага.
- ✓ Мікалай Панфілюк вяртаецца да падзеяў у Старым Беразове пры санацыі.

### АБ'ЯВА

Куплю 6 пар валёнкаў н-р 9,5-10.
Лёнік Тарасэвіч, Валілы 2
16-040 Гарадок

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

Савет Міністраў і Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, а таксама інфармацыі і правоў чалавека рашылі закрыць "каналы мутнага бруду, якія разбэшчваюць грамадства". Абазначае гэта, што прадбачваюцца дзеянні, мэтай якіх будзе стрыманне хвалі парнаграфічных фільмаў і літаратуры, а таксама ўсялякіх твораў прапагандуючых гвалт, канфідэнцыяльныя паслугі, гомасексуалізм і ўсялякія іншыя злачынствы.

* * *

Камісія Вярхоўнага Савета па нацыянальнай сімволіцы, якую ўзначальвае народны дэпутат Алег Трусаў, апрацоўвае новую нацыянальную форму і атрыбутыку для Узброеных сілаў Беларусі. Замест чырвонай пяцікутнай зоркі прадбачыцца срэбная чатырохкутная. Асновай сімволікі будзе знак "Пагоня".

* * *

На славутым менскім базары "Камароўка" цэны пакуль што не ўзрастаюць так хутка, як раней. Свініна, напрыклад, у канцы года каштавала 400-500 рублёў, такая сама была і цана масла за адзін кілаграм, бульба - 40, яблыкі - 100-200; мандарыны - 350-500, апельсіны - 400-600.

* * *

Усе афіцэры і прапаршчыкі, якія прыбылі ў Беларусь з мэтай выпаўняць вайсковую службу для былой савецкай арміі, рашэннем Вярхоўнага Савета рэспублікі маглі атрымаць беларускае грамадзянства. Тыя, якія рашыліся стаць грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, 31 снежня 1992 г. склалі прысягу на вернасць новай Бацькаўшчыне і беларускаму народу.

* * *

"Тое, што паміж Літвой і Беларуссю да гэтай пары не было ніякіх дыпламатычных зносін - гэта аграмадная памылка, якая будзе ў найбліжэйшы час выпраўлена. Большасць гэтага грэху мы бярэм на рахунак нашай рэспублікі" - сказаў падчас візіту ў Менску прэзідэнт Літвы Альгірдас Бразаўскас.

* * *

У апошніх днях снежня мінулага года ўпаў курс долара. Яшчэ 20 снежня каштаваў ён 500 рублёў, а 24 числа на "Камароўцы" можна яго было купіць за 470 рублёў. Найбольш клопатаў мелі хлопцы ў скураных куртках /у нас называюць іх "конікамі"/, якія баяліся, што тэндэнцыя такая будзе прадаўжацца і пабеглі натоўпам у дзяржаўныя банкі, дзе плацілі тады 485 рублёў. Але там схітрыліся і пачалі прымаць толькі вялікія сумы. У канцы дня долар можна было купіць за 460 рублёў. Усе хацелі прадаваць, ніхто не хацеў купляць. Можна сказаць - чорны дзень для некаторых "конікаў".

* * *

Восем дзён паляваў у Астравецкім раёне паляўнічы з Бельгіі. Застрэліў ён 2 ласі і за іх рогі заплаціў 350 нямецкіх марак. Забава гэтаму дзядзьку вельмі спадабалася і паабяцаў ён гаспадарам прыехаць яшчэ раз у большай кампаніі.

* * *

19-20 снежня 1992 г. у Менску прайшоў III З'езд Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі. АДПБ лічыцца партыяй лібералаў, а яе лідэр А. Дабравольскі - прыхільнікам найбольш радыкальных эканамічных рэформаў: як найменш дзяржавы ў гаспадарцы, а найбольш свабоды. Перш за ўсё АДПБ лічыць, што павінны адбыцца новыя выбары. Новы парламент павінен як найхутчэй заняцца новым заканадаўствам, якое створыць падставы для эканамічных рэформаў.



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# У НАРАЎЧАНСКАЙ ГМІНЕ

**Прыродныя ўмовы**

Сучасны рэльеф Нараўчанскай гміны прадстаўляе сабой злёгку хвалістую нізіну ледніковага паходжання, якая знаходзіцца ў сярэднім на вышыні 150—180 метраў над узроўнем мора. Гміна займае плошчу ў 33950 гектараў. Больш чым палавіну абшару, бо амаль 22 тысячы гектараў складаюць лясы, у значнай частцы — гэта Белавежская пушча. Глебы тут слабыя: каля 80% зямлі — гэта грунты V і VI класаў. Таму сеюць найбольш жыта — 830 гектараў і аўса — 400 гектараў. Бульба займае плошчу ў 524 гектары.

У гміне даволі многа зялёных угоддзяў: сенажацяў і пасбішч — каля 4,5 тысяч гектараў. Усе яны ў далінах рэк: Нарва, Нараўка і Баброўка ды іх прытокаў, між іншым, Акулінкі і Яблынёўкі. Травеадная жывёла знаходзіць тут корм на натуральных выганах на працягу амаль цэлага сезона выпасаў, а сенажаці даюць 2/3 усіх кармоў загатоўленых на зіму. Апошнюю частку кармоў складаюць зборы карматраў, зернавых і прапашных культур. Таму ў гміне даволі добра развіта гадоўля буйнай рагатай жывёлы. Тутэйшыя сяляне прадаюць дзяржаве, між іншым, многа малака.

Даволі добра развіта авечкагадоўля, а таксама птушкагадоўля. У вёсках, распаложаных каля рэкаў (пасёлак Нараўка, Семяноўка, Тарнопаль, Старое Ляўкова), разводзіцца вадаплаваючыя птушкі — гусі і качкі.

Змяншаецца, а шкада, зацікаўленне пчалярствам. Умовы для гэтай галіны гаспадаркі ёсць спрыяльныя — колькі тут летам лугавых і лясных кветак! У мінулым пчалярства было папулярным і складала асобную галіну гаспадаркі. Зліткі воску і мёду нават экспартавалі за граніцу.

**Карысныя выкапні**

Каля Нараўкі знаходзяцца залежы высакаякасных пяскоў. Залягаюць яны ў форме купала амаль зусім на паверхні зямлі. Запасы іх яшчэ не акрэслены, хаця звыш трыццаці гадоў эксплуатаваліся прыватным аб'яднаннем шклавараў.

У далінах рэк знойдзены жалезныя руды асадкавага паходжання. Залягаюць яны ў форме пластоў 15—20 сантыметровай таўшчыні. Каля Лукі і Нараўкі, апрача невялікіх паверхневых пластоў, сустракаюцца значна таўсцейшыя пласты на глыбіні 1—1,5 метра.

У 1942 годзе, маючы неабмежаваную колькасць „бясплатнай" рабочай сілы і вялікія патрэбы ў жалезе, нямецкія акупанты эксплуатавалі балотныя руды каля вёскі Лука.

Аднак найбольшым мінеральным багаццем у гміне з'яўляецца гліна. Таўшчыня яе пластоў дасягае васьмі і нават больш метраў, між іншым, каля вёскі Старое Ляўкова. Невялікія залежы яе адкрылі каля вёсак: Бакавое і Заблоччына.

На аснове некалькіх буравых шчылін глыбінёй да 100 метраў, зробленых нямецкімі шукальнікамі, геолаг Шотлер выказаў думку, што пад бітумінознымі глінамі могуць залягаць бурыя вуглі, а пад іх купаламі, магчыма, нават нафта. Падчас бурыльных работ каля Ахрымаў нашыя геолагі сустрэлі між іншым нафту. Некалькі бочак спомненага паліва павезлі ў лабараторыю і... на гэтым усё закончылася.

Ёсць таксама высакаякасныя жвіры. Найбольш вядомыя іх радовішчы знаходзяцца каля Нараўкі. Плошча пакладаў у 20 гектараў і таўшчыня ў 8 метраў. Яны не выкарыстоўваюцца. З іншых мінеральных выкапняў неабходна адзначыць пяскі. Звычайныя жоўтыя, шэрыя ці белыя сустракаюцца амаль усюды і выкарыстоўваюцца насельніцтвам як дапаможны матэрыял пры пабудове дарог і цэментабетонных работах.

**Прыязджаюць турысты**

Прыродныя ўмовы ў гміне ёсць спрыяльныя не толькі для развіцця некаторых відаў сельскай гаспадаркі. Тут таксама маляўнічыя ваколіцы ў даліне рэк Нарва і Нараўка. Зараз надышоў той час, калі воды Нарвы разліліся абшырным вадасховішчам. Атрымалася Семяноўскае мора. Так — мора! Яго паверхня складае 3250 гектараў. Яно — сёмае па плошчы гігантскае вадасховішча ў нашай краіне.

Галоўная, запруджваючая раку плаціна пабудавана ля Бандароў. У заліве завялі рыбную гаспадарку. На берагах вадасховішча пабудавалі і гасцініцу, і рэстаран, і курортныя домікі. У сезоне нараўчанскі ГС прывозіць сюды прадаваць свае гастранамічныя вырабы, хлеб, ахаладжальныя напіткі. У 1992 годзе (памятнае сухое і гарачае надвор'е) прыязджала сюды многа аматараў плавання, парусаў і рыбнай лоўлі. Даехаць сюды можна аўтобусамі ПКС, а ў Семяноўку — таксама цягніком. Наваколле цудоўнае, лясное. Чыстае паветра. Няма прамысловых аб'ектаў.

Рака Нараўка прыгодная для воднага турызму. Тут у 1958 годзе пасяліліся бабры. У пасёлку Нараўка дзейнічае Гмінны цэнтр спорту і рэкрэацыі. У ім можна пераначаваць у курортных доміках, узяць лодку або байдарку. Ёсць у Нараўцы вялікі рэстаран (150 спажывецкіх месц), з прасторнай тэрасай, на якой летам ставяць дадатковыя столікі пад парасонамі. Прыязджаюць сюды турысты і курортнікі нават з Сілезіі (Шлёнска). Прыезджыя з поўдня нашай краіны ахвотна ловяць рыбу і збіраюць чарніцы, маліны ды грыбы. Бываюць таксама і замежныя турысты.

**Цагельня мае збыт!**

Як вышэй успаміналася, у ваколіцы вёскі Старое Ляўкова знаходзяцца багатыя рэсурсы высакаякаснай гліны — сыравіны на чырвоную цэглу і пустакі на сцены і скляпенні, на дрэнажныя трубы, а таксама на іншыя керамічныя вырабы.

Калі верыць геолагам — хопіць яе сама менш на 70 гадоў. Ёсць яшчэ другі дар прыроды — самы адборны кварцавы пясок. Яго таксама выкарыстоўваюць (ён у вытворным працэсе неабходны) пры прадукцыі цэглы. Гэтага пяску — паводле канкрэтных дадзеных — хапіла б нават для вялікага шклозавода на некалькі дзесяткаў гадоў.

У цагельні працуе каля двухсот чалавек з Ляўкова і суседніх вёсак. Ляўкоўскім керамікам пашанцавала. Пасля застою — у апошнія месяцы мінулага года быў і зараз ёсць збыт на іх вырабы. Купляюць іх прадпрымальнікі з цэнтральнай Польшчы. Высылаюць па іх дзесяткі магутных грузавікоў. Штодзённа. Прыязджаюць яны ўвечары або ноччу і ад'язджаюць днём.

Варта было б, аднак, пашырыць асартымент прадукцыі. Пэўна знайшліся б пакупнікі на чырвоную чарапіцу (дахоўку) ды дэкаратыўныя элементы ў выглядзе колаў і разетаў. Тыя апошнія для пабудовы ажурных сценак, балюстрадаў і агароджаў. Спробы былі. Цяпер зноў пра гэта забылі. А шкада.

Нядаўна на фабрычным пляцы пабудавалі прасторную святліцу. У двухпавярховым будынку ёсць вялікая глядзельная зала са сцэнай, кіёск з харчовымі прадуктамі і прамысловымі вырабамі, гасцініца і так званая раміза /дэпо/ добраахвотнай супрацьпажарнай каманды. У святліцы праводзіць рэпетыцыі хор „Цаглінкі", адбываюцца канцэрты, аўтарскія сустрэчы беларускіх літаратараў.

Да керамічнага прадпрыемства праявялі чыгунку з нараўчанскага вакзала. Насупраць фабрычных карпусоў стаяць жыллёвыя блокі для 52 сем'яў. Ёсць тут пошта і дзіцячы сад. Побач — новы вясковы асяродак здароўя.

**Жыхароў усё менш**

У Нараўчанскай гміне пражывае 5330 чалавек, у тым ліку мужчын больш чым жанчын — на восемдзесят. Для параўнання: у 1980 годзе ў ёй налічвалася 6570 жыхароў (3335 мужчын і 3235 жанчын). Гміна складаецца з 35 вёсак і пасёлкаў, з 23 салэцтваў. Найбольшыя вёскі ў ёй: Нараўка, Семяноўка, Старое Ляўкова, Скупава і Новае Ляўкова.

У канцы мінулага года жыхарцы Бярнадскага Моста Еўдакіі Шэршуновіч споўнілася сто гадоў. 14 снежня 1992 года наведалі яе войт Мікалай Павільч і іншыя прадстаўнікі гмінных уладаў. (Рэдакцыя „Нівы" жадае Пані Еўдакіі 200 гадоў жыцця).

У гміне найбольш жыхароў працуе на ўласных гаспадарках, затым у цагельні, у лесе, у школах, у Гміннай спулдзельні „Сялянская самадапамога", у гміннай управе, на поштах. Працу знайсці цяпер — аднак — штораз цяжэй. Некаторыя адкрываюць уласныя крамы або паслуговыя пункты.

**Больш кватэр і тэлефонаў**

Зараз у кожнай салэцкай вёсцы ёсць тэлефоны. У мінулым годзе, дзякуючы актыўнай працы грамадскага камітэта тэлефанізацыі вёскі Заблоччына, яе жыхарам паставілі восем тэлефонаў. Ёсць гатовая тэхнічная дакументацыя на наступныя 22 тэлефоны ў Плянце.

Неўзабаве тэлефоны будуць мець жыхары новага пасёлка на ўскраіне Нараўкі (па дарозе ў Міклашэва). У мінулым годзе жыллёвы кааператыў здаў у карыстанне сорак восем кватэр у двух будынках. У 1991 і 1992 гадах наваселле спраўлялі 72 сем'і. Жыллёвыя блокі будуе спецыялізаванае ў гэтай галіне прадпрыемства з Бельска-Падляшскага. Месца пад новыя дамы тут дастаткова.

*(Працяг будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**
**Фота аўтара**



*Новае Ляўкова зімою.*

# ЛЕС І СВАБОДА

Ёсць у нас у вёсцы сяляне, якія не маюць свайго лесу, але дзіўна, што яны не маюць ніякіх праблемаў з апалам ні з дрэвам патрэбным для гаспадарчых мэтаў. Дубічы-Царкоўныя амаль поўнасцю акружаны лесам усялякім — маладняком, хваінай, бярэзінай, альшынай. У большасці лясныя ўчасткі з'яўляюцца ўласнасцю дзяржавы, а вядома, калі дзяржаўнае — гэта нічыё або ўсіх. Таму рэжуць гэты лес без ніякіх сумненняў, ну і зразумела, без ніякага дазволу. Падае ўсё пад сякерамі — „сушкі" і зусім здаровыя дрэвы. З лесу сыравіну вязуць проста на „крайзегі" і следу па ёй няма. Было прыгожае дрэва, а застаўся толькі пянёк, ну і дошкі ў клуні жуліка.

Няма ніякай літасці над прыродай. Глянеш на лес — калісь быў ён такі прыгожы, а цяпер тырчаць толькі крывыя ды пакручаныя дрэўцы, пакінутыя толькі таму, што непрыдатныя для апрацоўкі на дошкі, жэрдкі...

Цяжка зразумець, чаму людзі так паварварску нішчаць лес. Ёсць людзі сумленныя, нават калі едуць рэзаць нешта ў чужы лес, бяруць толькі дрэўца ўжо сухое, бо калі ім не зоймецца чалавек, зробяць гэта за яго караеды.

Свабода — гэта вялікі дар для разумнага чалавека, але даць яе для дурня, тады толькі клопат як для грамадства, так і для натуральнага асяроддзя, як бачым. Паглядзіць чалавек у тэлевізар, паслухае радыё, пачытае газеты, і даходзіць да высновы, што не толькі ў нас, але і ў цэлай Польшчы прыйшоў час нікчэмнікаў. Выкарыстоўваюць яны яго без ніякай літасці над нікім і нічым.

Прыватныя лясы яшчэ так-сяк трымаюцца. Гаспадар час ад часу пяройдзецца, пагляне, а калі патрэбна яму дрэва на апал, высячэ сухое, паламанае.

Праводзілася калісь камасацыя грунтаў. Кожны мог атрымаць свой лес, але большасць сялян хапаліся за ворную зямлю, не думалі нават браць нейкую маладую хваіну. У 60-х гадах шмат гаспадароў садзіла лес на сваёй найгоршай зямлі, на якой збожжа не хацела расці. І такім чынам адны маюць свой лес, другія... лепш не гаварыць, што. Гэтыя першыя цэняць яго, бо ведаюць вартасць сваёй працы.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# УШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ

Запрашэнне ад Ольштынскага саюза нямецкай меншасці атрымаў я як старшыня ольштынскай Тэрытарыяльнай рады БДА. На запрашэнні інфармавалася, што 15 лістапада 1992 . а 11 гадзіне адбудзецца пасвячэнне аднолькавых вайсковых могілак з перыяду I сусветнай вайны. Могілкі гэтыя - на Алеі Войска Польскага - у свой час былі дашчэнту здэваставаныя і на працягу некалькіх дзесяткаў гадоў зусім забытыя.

Толькі нядаўна мясцовыя немцы пачалі аднаўляць магілы сваіх суайчыннікаў, якія загінулі ў гэтых мясцінах амаль 80 гадоў таму назад. Людзі грамадскім пачынам упарадкавалі месца, выкарчавалі кусты, падмялі і пасыпалі жвірам алейкі і, галоўнае - паставілі крыжы на магілах ды ўзвялі адзін вялікі, супольны для ўсіх.

Вядома, што на гэтых могілках спіць вечным сном 800 забітых салдат. У гэтую нядзелю, на высвячэнне крыжоў сабралася шмат народу, не толькі мясцовых грамадзян нямецкай нацыянальнасці. Крыж высвячалі: каталіцкі і пратэстанцкі святары. Сярод гасцей былі: вайсковы аташэ нямецкага пасольства ў Варшаве, прадстаўнік нямецкага консульства ў Гданьску і дэлегацыя грамадзян Нямеччыны - ранейшых жыхароў Ольштына.

Старшыня Ольштынскага саюза нямецкай меншасці Вальтэр Ангрык - ініцыятар гэтай падзеі - у сваёй прамове гаварыў пра трагедыю, якую людзям прынеслі абедзве сусветныя войны. Каб больш такія няшчасці не здарыліся, трэба яднацца і ладзіць супрацоўніцтва між народамі. Падчас гэтага святкавання стаяў я і думаў: шануюць тых, хто прысутны ў грамадскім жыцці і толькі тыя народы, якія хочуць быць сабою, могуць быць бакам у супрацоўніцтве.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ДЗВЕ АЎТАКЕФАЛІІ

Пасля заканчэння II сусветнай вайны змяніліся межы Польшчы. Заходняя Беларусь і Украіна, дзе да вайны пражывала большасць праваслаўнага насельніцтва, знайшліся ў складзе Савецкага Саюза. У Польшчы асталося каля 800 тысяч праваслаўных вернікаў, у большасці на тэрыторыі Беластоцкага і Люблінскага ваяводстваў.

У ліпені 1944 г. выехалі з Генеральнага губернатарства ў Вену мітрапаліт Дыянісій і два ўкраінскія епіскапы Іларыён (Агіенка) і Паладый (Выдабіда-Рудэнка). Гэтыя апошнія ў сапраўднасці кіравалі Царквой у час нямецкай акупацыі. У Польшчы ў 1944 г. астаўся толькі епіскап Холмскі Цімафей (Шрэтэр), які з увагі на паланафільства не быў дапушчаны ў Сабор епіскапаў Генеральнага губернатарства. Да вайны быў ён епіскапам-капеланам, палкоўнікам польскай арміі.

Калі савецкія войскі занялі Вену, мітрапаліт Дыянісій рашыўся вярнуцца ў Варшаву. Апрача прывітальных граматаў генерал-губернатару Франку і душпастырскіх лістоў, заклікаючых праваслаўную моладзь выязджаць на работу ў Рэйх, нікому і нічога дрэннага ён не зрабіў.

У снежні 1944 г. у прысутнасці прадстаўніка ўрада БССР Беласточчыну наведаў мітрапаліт Мінскі архіепіскап Васілій. У выніку гэтага візіту святары Беластоцкага, Бельскага і Гайнаскага дэканатаў прызналі Васілія сваёй духоўнай і юрыдычнай уладай, адкідаючы адначасова епіскапа Цімафея. Гэты апошні ў той час быў назначаны ўрадам Польшчы — згодна дэкрэту прэзідэнта РП ад 1938 г. — архіепіскапам Беластоцкім.

Два месяцы пасля візіту галавы беларускай Царквы на Беласточчыну Маскоўскі патрыярх Алексій рашыў далучыць Беластоцкую епархію да расейскай Праваслаўнай царквы. Магчыма, што на пачатку 1945 г. справа дзяржаўнай прыналежнасці Беласточчыны не была яшчэ канчаткова вырашана, але істотнае тут астаецца тое, што ніхто даваенную аўтакефалію ад 1924 г. не трактаваў сур'ёзна. Маскоўскі патрыярх ад пачатку лічыў яе нелегальнай, а беластоцкае духавенства, калі толькі змянілася палітычная сітуацыя, амаль аднагалосна выказалася за спалучэннем з расейскай Царквой.

Тры справы, звязаныя з праваслаўем прыцягвалі ўвагу дзяржаўных уладаў Польшчы: юрыдычна фіналізаваць аўтакефалію, уключыць Беластоцкую епархію ў склад Варшаўскай мітраполіі і пазбавіць мітрапаліта Дыянісія ўлады над Праваслаўнай царквой у Польшчы.

Мітрапаліт Дыянісій хацяі дэклараваў гатоўнасць супрацоўнічаць з новымі ўладамі ў вырашэнні ўсіх праблемаў Царквы ў Польшчы, не мог чакаць прабачэння з іх боку за лаяльнасць да акупантаў падчас вайны. Не быў ён таксама адпаведным кандыдатам, каб весці перамовы ў Маскве наконт блаславення аўтакефаліі Царквы ў Польшчы. Не было аднак юрыдычных механізмаў, каб пазбавіць мітрапаліта паста, пакуль ён сам ад яго не адмовіцца. Усялякімі тады спосабамі заахвочвалі мітрапаліта, каб ён „захварэў" і пакінуў кіраванне Царквой.

З увагі на тое, што мітрапаліт Дыянісій не збіраўся „захварэць" і падаць у адстаўку, чаго хацеў урад Польшчы, разглядаліся іншыя варыянты, каб пазбавіць яго паста ў менш дыпламатычны спосаб. У лютым 1948 г. мітрапаліт быў арыштаваны. Афіцыйна ставіўся яму закід, што без дазволу польскага ўрада ў час акупацыі прысвоіў ён званне архіепіскапа епіскапу Саве, які ў той час прабываў за межамі Польшчы, і тым самым нарушыў дэкрэт прэзідэнта РП ад 1938 г.

На Беласточчыне з 1944 г. паўстала даволі парадаксальная сітуацыя. Праваслаўнай епархіяй кіравалі два епіскапы — Цімафей і Мінскі мітрапаліт Васілій. Першага ад пачатку не прызнавала большасць святароў, другога — дзяржаўная ўлада. Мітрапаліт сам не мог кіраваць епархіяй, якая знаходзілася ў межах другой дзяржавы, і таму назначыў свайго намесніка — бельскага дэкана айца Мікалая Вінцукевіча, які хутка пачаў наводзіць парадкі. Назначаў ён і адклікаў настаяцеляў прыходаў, вырашаў усе складаныя праблемы епархіі. У гэтым самым часе сваю персанальную палітыку пачаў ажыццяўляць таксама і епіскап Цімафей. Сярод святароў пачынаўся падзел на прыхільнікаў мітрапаліта Васілія і епіскапа Цімафея, а ў некаторых мясцовасцях — барацьба паміж духоўнікамі за кіраванне прыходамі. У Орлі настаяцелем прыхода Вінцукевіч назначыў айца Уладзіміра Цехана, а епіскап Цімафей — цераз памылку — уніяцкага ксяндза Івана Панько. Бельскі і беластоцкі чыноўнікі патрабавалі пару месяцаў, каб разабрацца, хто мае быць настаяцелем у гэтым прыходзе.

Яшчэ на пачатку 1945 г., калі духоўнікі Беластоцкай епархіі былі ўпэўненыя, што Беласточчына астанецца ў межах БССР, згодна выказваліся за кананічнай уладай епіскапа Мінскага, але калі ставалася больш ясным, што тут будзе польская дзяржава, некаторыя з іх пачалі падпарадкоўвацца распараджэнням епіскапа Цімафея. У выніку дзейнасці апарату бяспекі з часам лік яго „прыхільнікаў" сістэматычна ўзрастаў.

У ліпені 1945 г. беластоцкі ваявода Стэфан Дыбоўскі запатрабаваў ад епіскапа Цімафея даць распараджэнне, якое пазбаўляла б прыхільнікаў Мінскага мітрапаліта духоўных пастоў і гэтым самым адчыняла б дарогу для інтэрвенцыі дзяржаўнага апарату. Епіскап меў адклікаць гэтых духоўнікаў, якія не прызнавалі яго начальства. У канцы 1945 г. улады арыштавалі айца Мікалая Вінцукевіча, закідаючы яму парушэнне абавязваючага права (дэкрэт ад 1938 г.). Па просьбе арыштаванага прэзідэнт Берут аднак памілаваў яго. Вінцукевіч не быў ужо тады ў стане вярнуць тую ўладу, якую меў раней.

19 лютага 1946 г. настаяцелі прыходаў у прысутнасці ваяводскіх уладаў падпісалі дэкларацыю, у якой выракаліся падпарадкавання Мінскаму мітрапаліту і абавязаліся быць лаяльнымі толькі епіскапу Цімафею.

З Вінцукевічам асталося ўсяго некалькі святароў. Адзін з іх, айцец Уладзімір Емельянюк з Заблудава загінуў у нявысветленых абставінах. Быў ён пазваны у Ваяводскую ўправу і адтуль ужо не выйшаў. Пару тыдняў пасля, таксама ў таямнічы спосаб, прапаў дзесьці сам айцец Вінцукевіч. Беластоцкая епархія поўнасцю вярнулася ў Варшаўскую мітраполію.

Дзве асноўныя справы, якія патрабавалі неадкладнага вырашэння, былі аформлены згодна з патрабаваннем дзяржаўнай улады. Дарога да другой аўтакефаліі была адкрытай.

На месца арыштаванага мітрапаліта Дыянісія міністр адміністрацыі Эдвард Асубка-Мараўскі стварыў калегіяльны орган, які меў кіраваць Царквой. Адначасова польскі і савецкі ўрады ўзгоднілі парадак перамоваў паміж прадстаўнікамі праваслаўнай Царквы ў Польшчы і Маскоўскім патрыярхам Алексіем.

У чэрвені 1948 г. дэлегацыя польскай Царквы адраклася ў Маскве ад аўтакефаліі, якую атрымала ад Канстанцінопальскага патрыярха ў 1924 г. Узамен патрыярх Масквы і Расіі блаславіў незалежнасць Царквы ў Польшчы.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# ЛАПЦІ, МАНІТОР І ЭКСТАЗ

У навагоднай радыёперадачы "Пад знакам Пагоні" журналіст размаўляў з некалькімі прамінентнымі асобамі з беластоцка-беларускага асяроддзя. Цікавіла яго перш за ўсё, як яны ацэньваюць перспектывы прымірэння пасварных беларусаў. Ян Сычэўскі /БГКТ/ і Алег Латышонак /БДА/ былі згодны/!/: прымірэнне паміж абедзвюма арганізацыямі не прадбачваецца. У выказванні сп. Сычэўскага прагучала прэтэнзія да тых, якія яшчэ самі нічога не зрабілі, а ўжо крытыкуюць тых, якія нешта робяць. Рытар, на жаль, не сканкрэтызаваў гэтага абвінавачання, не падаў прыкладу такой крытыкі. Замала відаць было часу на такія падрабязнасці, можа таксама былі цяжкасці з аргументаваннем пастаўленых прэтэнзій. Развіць думку сп. Сычэўскага паспрабую тады я, хаця не ведаю, ці ў згодным з яго намерамі напрамку. Прэтэнзія сп. Сычэўскага вядзе да наступных высноваў: той, хто нічога не зрабіў, не мае права крытыкаваць таго, хто зрабіў нешта; той, хто зрабіў нешта, не мае права крытыкаваць таго, хто зрабіў болей; той, хто зрабіў болей, не мае права крытыкаваць таго, хто зрабіў найболей. Каб памераць гэтыя здзяйсненні мусяць існаваць нейкія меры, у якіх кожны стваральнік мае адмераныя свае заслугі і вялічыня гэтых заслуг акрэсліваецца нейкай лічбай, так як імі акрэсліваецца рост /у сантыметрах/, узрост /у гадах/, даўжыню рукава ці аб'ём лёгкіх. Наогул людзей характарызуюць неаднолькавыя памеры - адны маюць габарыты большыя, другія - меншыя. Таксама з заслугамі: ёсць людзі, якія маюць нулявыя заслугі, ёсць і такія, якія маюць заслугі большыя ад нуля, а сярод гэтых апошніх ёсць такая асоба, у якой заслугі найбольшыя. Трымаючыся пагляду сп. Сычэўскага, гэтую найбольш заслужаную асобу ніхто не мае права крытыкаваць. Яна, відаць, беспамылковая і мудрая - найразумнейшая пад Сонцам, усё робіць добра і над яе дасягненнямі трэба ахаць і охаць ад захаплення і быць у экстазе, ад гэтых заслуг.

На жаль, гэтая ідэальная карціна не ладзіцца з нашым штодзённым жыццём. Кожны з нас з'яўляецца нейкім асобным індывідуумам, які пасвойму ацэньвае чужыя здзяйсненні. Да таго ж кожны робіць што іншае і памераць усё гэта, нават для аднаго чалавека, было б немагчымым. Да таго ж здзяйсненні могуць быць канструктыўнымі або дэструктыўнымі, а іх ацэнкі з боку другіх асоб могуць быць супрацьлеглымі: тое, што нехта робіць, адны будуць называць будаваннем, іншыя - руйнаваннем. Ну і як гэта ўсё памераць: якімі мерамі, хто будзе вымяральшчыкам і колькі іх будзе мераць дасягненні адной асобы? Хто будзе мераць дасягненні вымяральшчыкаў? Як пералічваць сантыметры ў кілаграмы, а мінуты ў градусы Цэльсія? Ідэал такога татальнага вымервання людскай дзейнасці, як бачым, неасягальны для нас смяротных. Можам мы толькі суб'ектыўна, "на вока", ацаніць такую ці іншую дзейнасць нейкай асобы і то акурат такой, якая нешта робіць. Да таго ж ацэнку такую можа зрабіць кожны, хто такую дзейнасць якім-небудзь спосабам успрымае: ці то зрокам, ці слыхам, ці нюхам. А калі яшчэ мае магчымасць аб гэтым выказацца, то часам гэткае і робіць: настаў цяпер такі час, што гаварыць ці пісаць можа кожны, не толькі заслужаны; незаслужаным таксама можна - у астрог, пакуль што, за гэта іх не пасылаюць. Можна крытыкаваць і хваліць - абы справядліва. І могуць гэта рабіць не толькі правадыры і ўпаўнамочаныя імі іх намеснікі ці іншыя памагатыя, але і просты люд. Іерархічнае права на крытыку спыніла сваё існаванне, хаця, праўда, невядома, на як доўга. Заканамернасць пацвярджаюць выключэнні, адным з якіх з'яўляецца бэгакатоўскае "царства": там іерархічнае права на крытыку захавалася ў дасканала ўзорнай форме.

Сярод неназваных сп. Сычэўскім крытыканаў без заслуг адчуў сябе і я. Сумленне пачало мяне мучыць, не давала спакою. Начамі не спаў. Пакрыўдзіў - думаю - заслужаных дзеячоў незаслужанай крытыкай: трэба неяк прыкрыць гэту знявагу і нейк іх пахваліць. Можа, сон вернецца, і радасць, і нейкі экстаз ці нават яшчэ што болей. Думаю, што хваліць можа нават асоба без заслуг. Хай прабачыць мне толькі сп. Сычэўскі, што пахвала мая будзе датыкаць толькі адной дзялянкі, у якой я адчуваю сябе крыху кампетэнтным, каб выказвацца публічна. Пахваліць хачу ідэю перадачы выдавецкіх камп'ютэраў у Беларускі музей у Гайнаўцы. Ажыццяўленне гэтай ідэі стварыць новую музейную эпоху, у якой прадметы далёкай даўніны, якімі карысталіся нашы даўнія мужыкі, будуць экспанавацца побач з найбольш сучаснымі вырабамі, якімі "карыстаюцца" цяперашнія бэгакатоўскія паны. Дагэтуль парадак у музеях такі, як за цара Гароха: у адных залах Старажытнасць, у другіх Сярэднявякоўе, у яшчэ іншых Рэнесанс ці Класіцызм. Архітэктары ўжо даўно вырваліся з гэтага канону: за крамлёўскімі сценамі, напрыклад, на фоне старадаўніх цэркваў пабудавалі сучасны Палац з'ездаў. Вось і наш гайнаўскі музей, дзякуючы наватарскай ідэі заслужаных дзеячоў, першы ў свеце вырвецца з застарэлага музейнага канону і наладзіць выстаўку па-новаму. Наведвальнікі, уваходзячы ў бутафорыю традыцыйнай беларускай хаты, спярша ўвойдуць у сені, затым праз адчыненыя дзверы, заглянуць у камору: а там, на старой, бабулінай пасажнай скрыні стаяць будзе вялікаэкранны манітор. У кухні, з-пад дзядулевага ложка выглядаць будзе меншая лазерная друкарка. На лаве, у гліняных гладышах, прыкрытых дыскеткамі, стаяць будзе салодкае і кіслае малако. Паміж гладышамі і ступай ляжаць будзе сырнік з тварагом, прыціснуты сканерам. Пад лавай, побач лыкавых лапцяў, стаяць будзе акумулятар электранапружання і зялёным вокам, як кот, будзе маргаць да ляжачай каля дзіркі ў падлозе электроннай мышкі. На печы, за дзежкамі з заквасай, разам з валкам і качалкай, ляжаць будзе адна клавіятура; у падпечку, разам з лучынай, - другая; у пліце, разам са смалістым паленам - трэцяя. У печы, як тры пірагі, стаяць будуць тры меншыя маніторы. Пад сцяной, на большай лазернай друкарцы будзе стаяць вядро з вадой і кубачак. Пяройдуць наведвальнікі ў спальню, а там за ложкам стаяць будзе вежа і ціха, усыпляльна шумець. На сцяноўцы стаяць будуць дзве іголачныя друкаркі, а кабелі ад іх вісець будуць на градцы, скручаныя на падабенства калядных каўбас. У пакоі, за кроснамі і сноўніцай, на стале, ляжаць будзе дакументацыя. На сцяне будуць красавацца партрэты найболей заслужанага і яго вернага памагатага. Будуць гэта вельмі прыгожыя, як вялікодныя яйкі, выявы, намаляваныя рукой вядомага або невядомага мастака канца XX ст. Пад партрэтамі стаяць будуць вітушкі а побач іх, на двух успамагальных камп'ютэрах ляжаць будзе матавіла. Наведвальнікі, паглядзеўшы на сноўніцу, матавіла і на партрэты, пачнуць задаволена ўсміхацца, потым ахаць і охаць, а потым...

Музей стане слаўны і ў Гайнаўку, як у Мангёндэ, ехаць будуць аматары экстазу з краіны і замежжа. Мангёндэ, мясцовасць, у якой нарадзіўся паўночнакарэйскі правадыр Кім Ір Сэн, з'яўляецца музеем-скансэнам — месцам яго культу і мэтай паломніцтва ўсіх жыхароў Паўночнай Карэі. Жыхары гэтыя не маюць ні аўтамашын, ні кватэраў ні нават мэбляў - усё гэта ўласнасць дзяржавы. Адзенне, аднолькавага для ўсіх фасону, атрымоўваюць яны толькі з нагоды Першамая ці гадавіны нараджэння свайго правадыра або гадавіны прыходу яго да ўлады. Вельмі ж усе яны яго за гэта фанатычна любяць, бо ён і дбае пра ўсіх і геніяльна думае за ўсіх. У яго краіне ёсць некалькі сотняў легкавых аўтамашын, якімі ездзяць толькі найбольш заслужаныя перад ім. Як у БГКТ, дзе "волгай" ці "паланезам" прынята вазіць толькі правадыра і яго намесніка; і думае гэты наш правадыр за ўсіх і дбае пра ўсіх - вось цяпер ашчаслівіць музей каштоўнымі спецыялістычнымі цацкамі. Абы толькі, барані Божа, не аддаць іх "Ніве" - было б гэта няшчасце большае чым ліквідацыя музея ў Мангёндэ.

Добра напісаць нешта пахвальнае. Міла і цёпла рабіцца на душы, як прыемна, сэрца б'ецца ўсё мацней і мацней. А-а-ах! О-о-о-ох! Э-э-э-ээ...

.........

Уууух!!

Цьфу!

Наканец, для найбольш непаседлівых чытачоў два пытанні:

1. Ці той, хто не курыць /незаслужаны ў курэнні/ мае права звярнуць увагу курцу /заслужанаму/ на смурод і шкоднасць тытунёвага дыму?

2. А ў якім эмацыянальным стане знаходзіцца найбольш заслужаныя дзеячы: ці крыху шчыпае іх сумленне, ці яны ў поўным экстазе?

**АЛЯКСАНДР ВЯРБІЦКІ**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ГОРАД КЛЯШЧЭЛІ

### V. "ПРАВИЛО ВЕРЫ И ОБРАЗ КРОТОСТИ..."

Святы Мікалай, архіепіскап Мірлікійскі, які жыў у IV ст. у Візантыі, асабліва шанаваўся ў малітоўнай памяці верных усёй хрысціянскай Царквы. Святы Мікалай, прыклад веры і пакоры, вялікі духоўны, роўны па свайму "воздержанию" для Настаўніка - Ісуса Хрыста; заступнік бедных ды бязвінных, асабліва шанаваўся і шануецца ва ўсходніх славян. У яго гонар пасвячаліся шматлікія храмы, пісаліся іконы... Як ведаем, такі храм узнік і ў Кляшчэлях. Апекаваліся ім гарадскія купцы, для якіх св. Мікалай быў асаблівым нябесным заступнікам.

У І палове XVI ст. для царквы ў Кляшчэлях была напісана ікона св. Мікалая з "жыціем". З гэтай пары яна стала галоўным аб'ектам культу. Кожную нядзелю людзі збіраліся ў храме на акафісты ля іконы свяціцелю. У наваколлі разышлася слава пра цуды па малітвах перад іконай.

Пасля 1596 г., хаця афіцыйна Праваслаўная царква перастала існаваць, кляшчэлеўскія цэрквы св. Мікалая і св. Юрыя не пайшлі следам за сваім іерархам, які прыняў унію. Дзякуючы свайму эканамічнаму становішчу, кляшчэлеўскія купцы дапамагалі ўтрымацца святарам.

У 1632 г. наспеў праект аднаўлення праваслаўнай царкоўнай іерархіі. Бачачы такую пагрозу, уніяцкае духавенства пры дапамозе прыхільнага ім старасты, займае два кляшчэлеўскія храмы. Маланкавай рэакцыяй на гэтае насілле было згуртаванне лепшых праваслаўных сіл у царкоўнае Брацтва. Патронам Брацтва стаў свяціцель Мікалай.

Дзякуючы супольным намаганням членаў Віленскага, Берасцейскага, Бельскага ды Кляшчэлеўскага брацтваў, кароль Уладзіслаў IV універсалам ад 14 сакавіка 1633 г. загадаў вярнуць праваслаўным многія цэрквы, сярод іх бельскую Багаяўленскую ды кляшчэлеўскую Мікалаеўскую.

На жаль, выкліканы уніяцкім духавенствам рэлігійны канфлікт не спыніўся. Унія знаходзіла ўсё больш прыхільнікаў, галоўным чынам сярод найбольш можнага ды найбагацейшага класаў. У жніўні 1633 г. Мікалаеўскую царкву ў Кляшчэлях ізноў займаюць уніяты. Духавенства храма застаецца вернае Праваслаўю, набажэнствы ў царкве не служацца. Справаю кляшчэлеўскіх цэркваў цікавіцца асабіста сам мітрапаліт Пётр Магіла.

Тры гады праваслаўныя Кляшчэль заставаліся без храма. Пасля ўхвалення Сеймам у 1635 г. Канстытуцыі "Рэлігія грэцка", была створана камісія, якая ў красавіку наступнага года на месцы вырашыла справу прыналежнасці кляшчэлеўскіх цэркваў. Праваслаўным былі вернуты дзве царквы.

Наступілі спакайнейшыя гады для праваслаўных у Кляшчэлях. Брацтва св. Мікалая стала рамантаваць галоўны храм. Царква ўзбагацілася новымі іконамі і кнігамі /да I сусветнай вайны ў кляшчэлеўскай царкве знаходзілася Евангелле львоўскага друку з 1629 г./. Аднačасова Брацтва ўзмоцніла малітвы да Бога і да свайго заступніка аб спакой для веры. Тым часам з Бельска даходзілі трывожныя водгаласы сапраўднай рэлігійнай вайны... Аднак зло з часам дакацілася і да Кляшчэль.



*Найстарэйшы сакральны аб'ект у Кляшчэлях — званіца царквы св. Міколы. Пасля рамонту прыстасавалі яе на капліцу (1984 г.).*

Пагроза казацкага паўстання ды смерць мітрапаліта Пётра Магілы выклікае антыправаслаўныя настроі. Зімою 1648 г., ізноў за падтрымкаю старасты, уніяты адбіраюць праваслаўным цэрквы ў Кляшчэлях. Смерць караля Уладзіслава IV ды выбух паўстання на Украіне адбіраюць надзею на вяртанне храмаў праваслаўным. Увосень 1648 г. па ўсім Падляшшы разыходзіцца трывожнае рэха пакутніцкай смерці ігумена берасцейскага Афанасія Філіповіча.

Вымушаныя неймаверна цяжкімі абставінамі члены Мікалаеўскага брацтва разам з духоўным падпарадкоўваюцца уніяцкай іерархіі. Аднак жа, змена юрысдыкцыі не памяняла характару Брацтва і царкоўнага парадку. Брацтва далей вяло асветнharытатыўную дзейнасць, дапамагала ўтрымацца двум свяшчэннікам, праводзіла рамонты храмаў /у 1709 г. па ініцыятыве Брацтва была ўзведзена прыгожая званіца пры Мікалаеўскай царкве/.

Галоўнай заслугай Брацтва ў той перыяд было тое, што стаяла яно за абарону царквы перад лацінізацыяй і паланізацыяй. За гэта царква неаднойчы падвяргалася розным абмежаванням уніяцкіх уладык і рымска-каталіцкага кліру.

Яшчэ ў пачатку 1727 г. настаяцель Мікалаеўскай царквы а. Васілій служыў паводле праваслаўнага служэбніка. Пасля выяўлення гэтага, уніяцкія візітатары забаранілі ужываць яго: "Służebnik /праваслаўны - аўт./ jako Niepotrzebny kassuiemy /.../" /з "Візітацыі" Мікалаеўскай царквы ў 1727 г./

Нягледзячы на абмежаванні, Брацтва старалася быць як найбольш незалежным ад уніяцкай іерархіі. А сваім сапраўдным архірэем лічыла самога святога Мікалая. У надпісе, зробленым на званіцы Мікалаеўскай царквы чытаем: "Сия звоница соружена года Господня 1709 дня 19 месяца мая за старанием братства иже во святых отца нашего архиерея Николая Чудотворца".

/працяг будзе/

**Р.С. і М.С.**

# АЙЦЕЦ ВІТАЛІЙ ЧЫЖЭЎСКІ



Нарадзіўся ён у жніўні 1935 г. у Крынках у сялянскай сям'і. Ужо з маленства палюбіў ён царкву і часта з бацькамі хадзіў у Паўночны Востраў, у храм Успення Божай Маці. Тамашні настаяцель Васіль Семянтоўскі прыгожа служыў набажэнствы, а яго пропаведзі вельмі падабаліся хлопчыку. Калі ў сем гадоў пачаў хадзіць у школу, стаў ён таксама памагаць свяшчэнніку падчас службы. Захапленне прыгажосцю царкоўнай літургіі вырашыла яго далейшы лёс: ён канчае Праваслаўную духоўную семінарыю ў Варшаве, а пасля вучыцца далей у Духоўнай акадэміі ў Ленінградзе. Вярнуўшыся на радзіму, у 1955 годзе атрымоўвае прыход Нараджэння Святой Дзевы Марыі ў Кентшыне. Ад 1960 года абслугоўвае ён таксама прыход Святых Апосталаў Пятра і Паўла ў Венгажэве.

Праваслаўны прыход у Кентшыне паўстаў у 1949 годзе. Пасля вайны рэпатрыявалася сюды многа людзей з Беларусі, Літвы, Расеі. Прыехала таксама, у пошуках працы, многа моладзі з Беласточчыны. У 1947 г. у рамках акцыі „Вісла" прыбыло сюды каля 2 тысяч украінцаў. Людзі гэтыя былі загубленыя, самотныя, перапалоханыя жахам нядаўняй вайны і трагедыяй высялення. Арганізацыяй рэлігійнага жыцця ў Кентшыне і ваколіцы заняўся а. Анатоль Бондар з Гіжыцка. Пазней настаяцелем кентшынскага прыхода стаў Аляксандр Ушакоў з Беларусі, а пасля яго смерці ў 1953 годзе — Юры Клінгер. Свяшчэннік гэты праводзіць перабудову святыні. Мастацкую паліхромію выканалі праф. Ежы Навасельскі і праф. Адам Сталёны-Дабжанскі. У 1955 г. Юры Клінгер выязджае ў Варшаву, дзе займаецца навуковай працай, а на яго месца назначаецца малады беларус Віталій Чыжэўскі. Многа цяжкасцей прышлося пераадолець маладому настаяцелю: у 1956 г. пакідае прыход і вяртаецца на радзіму многа ўкраінскіх сем'яў; улады таксама „дбаюць" пра святара, ствараючы яму розныя цяжкасці. Спачатку сумаваў ён за сваімі роднымі крынкаўскімі старонкамі, але пасля зжыўся з новай сітуацыяй. Айцец Віталій патрабавальны да сябе, сумленны, гасцінны, здабыў вялікую пашану сярод сваіх прыхаджан. Яго ахвотна запрашаюць усе: і прыхаджане да сваіх дамоў і святары з усёй краіны на свае прыхадскія святы. Ён з'яўляецца членам Мітрапаліцкай рады, выкладае катэхізіс ва Украінскім ліцэі ў Гурове-Ілавецкім, а таксама выконвае рэлігійную паслугу грэка-каталіцкім сем'ям у Круклянках, Арлове, Сантопах-Самулеве і Галдапі. На галоўнае прыхадское свята — Прачыстую — 19 верасня, да а. Віталія Чыжэўскага з'язджаюцца святары з многіх прыходаў. Ён радасна прымае сваіх гасцей. Са сваімі землякамі гаворыць на прыгожай беларускай мове. Матушка Вера, родам таксама з Крынак, спявае ў сваёй царкве.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# ХРЫШЧЭННЕ ГОСПАДА



*Трапар, спеў 1*

*Калі ў Іардане хрысціўся Ты, Госпадзе, тройчнае зьявілася пакланеньне, бо голас Айцоўскі сьведчыў аб Табе, улюблёным Сыне Цябе называючы; і Дух у выглядзе галубіным пацьверджаў словы вяшчаньня. Зьявіўся, Хрысьце Божа, і сьвет азарыў, слава Табе.*

Адзначаючы гэтае свята ўспамінаем хрышчэнне Ісуса Хрыста ў Іардане. Але ўжо назва Багаяўленне паведамляе нам, што ў час Хрышчэння Гасподняга аб'явіўся Бог у Святой Тройцы - Бог Айцец, як голас з нябёсаў аб Сыне, сын Божы - Ісус Хрыстос, які прыняў хрышчэнне ад Іаана, і Дух Святы, які сышоў на Сына ў постаці голуба. Іншыя назвы гэтага свята гэта Ярдан, Вадохрышча.

Ісус Хрыстос не таму прыняў хрышчэнне ад Іаана, што патрабаваў ачышчэння, але каб паказаць людзям дарогу ў Царства Нябеснае. Хрышчэнне - дзверы ў гэтае Царства. Акрамя дарогі, якая вядзе да збаўлення, Гасподзь адкрыў нам таксама тайну Святой Тройцы. Таму, калі Царква адзначае хрышчэнне Гасподняе, украшае яна нашу веру ў неспазнаную тайну Трох Істотаў Адзінага Бога, навучаючы нас аднačасна вызнаваць і ўслаўляць Святую Тройцу Адзіную і Нераздзельную. Паказвае таксама, што нашае ачышчэнне і збаўленне ад грахоў ёсць магчымае, дзякуючы толькі сіле ласкі Духа Святога. Хрышчэнне, якое здзейсніў Іаан Хрысціцель, было толькі сімвалам ачышчэння грахоў, было падрыхтоўкай да хрысціянскага хрышчэння. Іаан праз сваю навуку падрыхтоўваў людзей прыняць набліжаючагася Месію. Гаварыў ён, што хрысціць іх у вадзе ў знак пакуты, пасля адрачэння ад сваіх грахоў, дзеля іх ачышчэння, але той, які ідзе пасля яго - Хрыстос - будзе іх хрысціў Духам Святым і агнём. Гэтыя словы абазначаюць, што Святы Дух, як агонь, ачысціць людзей з грахоў. Хрышчэнне ўстаноўленае Збавіцелем будзе сапраўдным духоўным адраджэннем чалавека.

Хрыстос прыняў хрышчэнне ў Іардане ва ўзросце 30 гадоў. Гэта мела сувязь з яўрэйскім Законам, які чалавеку ў гэтым узросце даваў права звацца настаўнікам /рабі/ і навучаць народ.

Свята Хрышчэння Гасподняга мае свой пачатак у апостальскіх часах, аб ім успамінаюць ужо Апосталы. Адным з найстарэйшых пераказаў аб гэтым свяце з'яўляецца сведчанне св. Кліменція Александрыйскага ад II стагоддзя. Гэтае свята займае асаблівае месца сярод дванаццаці вялікіх царкоўных святаў. Напамінае яно аб нашым духоўным нараджэнні ў той дзень, калі мы прымалі Таінства Хрышчэння.

Напярэдадні свята - у Сачэльнік - абавязвае строгі пост. Згодна царкоўным канонам у гэты дзень да часу асвячэння вады нельга есці.

Асвячэнне вады спалучанае са Святам Багаяўлення адбываецца двойчы. Напярэдадні праходзіць яно ў храме, што сімвалізуе старахрысціянскі абрад свячэння вады для хрышчэння катэхуменаў, які адбываўся ў святыні. Але ўжо ў сам дзень свята асвячэнне вады, на памятку Хрышчэння Гасподняга, адбываецца па-за храмам - у рэках, азёрах, сажалках, студнях і іншых месцах, у залежнасці ад таго, дзе знаходзіцца царква.

**С.Н.**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

## ГІСТОРЫЯ ШКОЛЫ, ЯКОЙ ДАЎНО УЖО НЯМА

У пачатку снежня мінулага года быў я на аўтарскай сустрэчы ў Пачатковай школе ў Дубяжыне. Дырэктар Надзея Аврчук паказала мне тады хроніку даўно неіснуючай чатырохкласнай школы ў Мокрым. Казала мне яна, што, калі ў 1973 годзе ліквідавалі гэту школу, нехта з маіх аднавяскоўцаў прынёс хроніку ў Дубяжын і таму, дзякуючы невядомаму чалавеку, яна ацалела.

Зараз жа я кінуўся гартаць старонкі, глядзець змешчаныя ў хроніцы нешматлікія здымкі і рысункі. Настальгічны настрой на нейкі час заблакіраваў усе іншыя думкі. Жывыя здарэнні, апісаныя і не апісаныя, успаміны пра сяброў і сябровак, запамятаныя вобразы, блакітныя імгненні... І настаўнікі, як цэнтральныя постаці з ранняга школьнага жыцця - аўтары запісаў.

Знойдзеная ў Дубяжыне хроніка маёй першай школы ахоплівае час з верасня 1962 па студзень 1973 года. Пісалі яе паслядоўна, на польскай мове, настаўнікі: Лідзія Хіліманюк, Уладзімір Шклярук і Ніна Астапчук.

Што адзначана ў хроніцы? Вядома, перш за ўсё розныя ўрачыстасці, як пачатак і заканчэнне навучальнага года, навагоднія ёлкі, дзяржаўныя святы і экскурсіі.

Саліднасцю, значнай падрабязнасцю запісаў, багаццем думак, натуральнай і нескрыванай любоўю да ўсяго роднага, а таксама... прыкладнай каліграфіяй выразна вылучаецца тэкст, што выйшаў з-пад пяра Уладзіміра Шклярука. Асаблівую сілу прыцягнення ў хроніцы мае ягоны "Krótki rys historyczny szkoły", напісаны на аснове роспытаў і даведак ад мясцовых жыхароў. Ніжэй змешчаная гісторыя школы ў Мокрым з'яўляецца нязначным скарачэннем сёння дакументальнай ужо працы кіраўніка гэтай школы ў 1966-68 гадах. Думаю, што цікавасць выкліча і тое, што пад знешняй абалонкай канкрэтных фактаў можна тут без цяжкасцяў угледзець многія меандры нашай малаайчыннай гісторыі.

* * *

У канцы XIX і ў пачатку XX стагоддзяў элементарнае навучанне дзяцей у вёсцы Мокрае вялі нанятыя сялянамі хлопцы /яны часта мяняліся/, якія закончылі ў Падбеллі г. зв. "народное училище". Настаўнік такі, ва ўзросце 13 - 14 гадоў навучаў у "пераходнай школе", якая вандравала з хаты ў хату паасобных вучняў. Калі гэта быў мясцовы хлопец, то жыў ён, зразумела, у сябе. Іншавясковец харчаваўся і начаваў па чарзе ў хатах сваіх вучняў. Галоўным наглядальнікам такога навучання быў падбеленскі бацюшка.

У памяці жыхароў Мокрага захаваўся 1910 год, калі ўлады назначылі настаўніка для стварэння тут парафіяльнай школы з назвай "церковно-приходское училище". Школа змяшчалася ў прыватным доме кавалера Якіма Прафірука /*майго прадзеда - Ю.Б.*/. Былі ў ёй класы: уступны /нулявы, паводле сённяшняй наменклатуры/, першы, другі і трэці. Заняткі вяліся з раніцы да вечара, з перапынкам на абед. Школьны год пачынаўся зараз пасля праваслаўнага свята Пакроў Прасвятой Богамаці і працягваўся да Вялікадня. У першы клас прымалі васьмігодкаў. Трэці клас канчаўся экзаменам. Навучанне вялося на рускай мове. Апрача яе абавязковай была таксама старажытнацаркоўнаславянская мова. Фенаменальная ўласцівасць тае школы - бясплатныя падручнікі /тады ўжо!/.

Школа такога тыпу існавала да І сусветнай вайны. Прозвішчы настаўнікаў не захаваліся. З надыходам немцаў усе жыхары вёскі падаліся ў Расію.

У новых грамадска-палітычных умовах ІІ Рэчыпаспалітай была заснаваная ў Падбеллі польская школа для акалічных вёсак, дзе - нягледзячы на такія катаклізмы як вайна і бежанства - захаваўся школьны будынак з папярэдняга перыяду. Арганізавалі тут 4 аддзелы "паўшэхнай" школы.

У гады савецкай улады /1939-41/, у Падбеллі таксама існавала 4-класная школа, ужо з беларускай і рускай мовамі навучання.

Прычынай, якая пазней спарадзіла думку наконт заснавання новай школы ў Мокрым, была пабудова ў савецкі час невялікага прадуктовага кааператыўнага магазіна. У час гітлераўскай акупацыі /1941-44/ новая будыніна пуставала, не было тут ужо крамы, а толькі зрэдчас арганізаваліся вясковыя сходы.

У першым годзе акупацыі ў Мокрым, нанятая сялянамі настаўніца прозвішчам Катлінская вучыла сабраныя па хатах дзеці грамаце на беларускай і нямецкай мовах. Потым некаторыя дзеці хадзілі ў суседні Дубяжын, дзе, з перарывамі, існавала школа падобнага тыпу, таксама з беларускай і нямецкай мовамі навучання. Заняткі вяліся там у даволі вялікай, яшчэ з царскага часу, будыніне дзяржаўнага прызначэння /у міжваенны перыяд была яна сядзібай гміны/.

*/заканчэнне будзе/*

**ЮРКА БАЕНА**



*Школьны будынак у цішы позняй восені...*

# Czasopis

**У СТУДЗЕНІ**

Святочны выпуск „Часопіса" змяшчае артыкул архіепіскапа Савы, у якім прадстаўляецца праваслаўны погляд на аборт.

Прафесар Васіль Белаказовіч дае ацэнку кніжкі Юры Туронка „Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі".

Аляксандр Малеша высвятляе адносіны ўсходнебеластоцкіх беларусаў да Праваслаўнае царквы на працягу апошніх васьмідзесяці гадоў.

Дарота Кузьміч, з характэрнай сабе настальгіяй, піша пра абрады, звязаныя з вілеяй.

У студзеньскім нумары друкуецца працяг кніжкі Сакрата Яновіча „Dolina pełna losu".

„Часопіс" змяшчае таксама беларускі праваслаўны каляндар на 1993 год.

Апрача таго чытачы знойдуць пастаянныя рубрыкі: з архіва, з друку, хроніка, крыжаванка ды іншае.

**Ю. К.**

## АТРАСІНЫ ПА-ВІЛЕНСКУ

Тое, што ў Беластоку называецца "атрасінамі", у Вільні беларускія студэнты называюць "хрышчэннем". У Віленскім педагагічным універсітэце вучыцца шмат беларускіх студэнтаў. Маюць яны нават сваю газету "Студэнцкую долю". На яе старонках пішуць пра ўсе сучасныя праблемы тамашніх беларускіх студэнтаў, але не забываюць таксама і пра амаль стогадовую традыцыю беларускага маладзёжнага руху ў гэтым універсітэце.

У кастрычніку мінулага года прымалі ў рады студэнцкай грамадскасці першакурснікаў. Пасля ўсяляскіх экзаменаў і здзекаў з боку старэйшых калегаў, студэнтаў першага курса палічылі "ахрышчанымі" і прынялі ў "Ордэн братоў беларусаў". Далей называюць іх "неафітамі", пакуль праз год не "ахрысцяць" новых.

**М.**

☛ *Працяг са стар. 1*

## АЦАНЯЛІ "НІВУ"

чытачоў сабе не набудзе. Гэткіх „вясковых" матэрыялаў у газеце замала, або, дакладней, замала матэрыялаў, робленых журналістамі, і таму прапорцыя паміж допісамі карэспандэнтаў і рэдакцыйнымі тэкстамі пахіснутая ў бок тых першых не з карысцю для тыднёвіка. Беларускі чытач, аргументаваў Г. Валкавыцкі, гэта ўсё яшчэ чытач з сялянскім менталітэтам, дарма што жыве ў мястэчку ці горадзе. Таму для нас на Беласточчыне ўсё яшчэ актуальная праграма „нашаніўства", на якую арыентавалася „Ніва" пад ягоным кіраўніцтвам. Г. Валкавыцкі прапанаваў таксама правесці апытанне сярод чытачоў наконт зместу і вобліку газеты. Заначыў яшчэ, што наогул лягчэй у газеце трымацца пастаянных рубрык, чымсьці раскладаць матэрыял па старонках, як гэта рэдакцыя спрабуе рабіць цяпер. Не заўсёды хапае вартаснага матэрыялу, каб запоўніць ім тэматычныя старонкі.

Шматгадовы і плённы карэспандэнт „Нівы" з Белавежы Пётр Байко, падтрымліваючы заўвагі Г. Валкавыцкага, адзначыў адначасова, што накірунак зменаў, які абрысаваўся ў „Ніве" апошнім часам, ён ацэньвае станоўча. Крытычна выказаўся наконт штотыднёвай рубрыкі „Тэлефаксам з Менска" — яна даволі аднабаковая й наогул выстаўляе жыццё ў Беларусі з даволі непрыглядная боку. У гэтым яго падтрымаў шмат хто з прысутных на сходзе. Алег Латышонак заўважыў, што добра было б змяшчаць у „Ніве" матэрыялы з Беларусі на бытавыя тэмы — адыйсці ад палітыкі, а болей увагі прысвяціць штодзённаму жыццю беларуса ў Рэспубліцы, пра якое мы на Беласточчыне, па сутнасці, няшмат ведаем.

Яўген Міранові́ч, адносячыся да сказанага наконт чытацкай базы газеты, паведаміў, што сёння структура кальпартажу „Нівы" выглядае наступна: 25% працэнтаў тыражу ідзе на вёску, а 75% — у гарады (Бельск, Гайнаўку і Беласток у асноўным). Што тычыцца менталітэту сённяшняга чытача, трэба было б, сапраўды, правесці апытанне, праблема толькі, якім чынам гэта зрабіць. Пасылаць апытальнікі поштай або надрукаваць у газеце можна, але практыка (напрыклад — „Часопіс") паказвае, што масавага ўдзелу ў апытанні спадзявацца нельга. Прысутныя пагадзіліся на тым, што найлепш апытанне правесці пры нагодзе збірання матэрыялаў журналістамі, калі неабавязкова трэба запаўняць апытальнік у прысутнасці чытача, які наогул нашмат свабадней выказваецца без гэтай анкетнай афіцыйнасці.

Яўген Міранові́ч пагадзіўся, што рубрыка „Тэлефаксам з Менска" не надта ўпісваецца ў агульную канцэпцыю газеты, якая мае быць перш за ўсё голасам беластоцкага беларуса, таксама і ў асвятленні жыцця ў Рэспубліцы. Ён заявіў, што рэдакцыя пастараецца рабіць нешта накшталт хронікі грамадскага жыцця Беларусі ўласнымі сіламі, але на практыцы гэта абазначае больш-менш месячнае спазненне ў актуальнасці інфармацыі.

На пастуляваную прысутнымі патрэбу ўвядзення рубрыкі „З жыцця беларускіх арганізацый", якая запаўнялася б перш за ўсё прадстаўнікамі гэтых арганізацый, рэдактар адгукнуўся станоўча — маўляў, гэтая магчымасць існавала ды існуе пастаянна, праблема адно ў тым, што няма ахвотных (ці, можа, пісьменных у беларускай мове ў гэтых арганізацыях), якія гэтую рубрыку маглі б утрымаць.

На заканчэнне мне выпадае сказаць ад сябе пра тое, што на сходзе не абмяркоўвалася — пра матэрыяльную сітуацыю працаўнікоў рэдакцыі. Ужо больш за год часу заробкі ў „Ніве" запыніліся ніжэй гэтак званага „сацыяльнага мінімума", і нішто не паказвае, што яны павысяцца. Праблема выжывання „Нівы" — гэта і праблема матэрыяльнага выжывання ейных працаўнікоў. Ведаем, што ніякае „манны з неба" ў бліжэйшы час не прадбачваецца.

**ЯН МАКСІМЮК**



© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ДУХОВАЯ МОЦ ПАГРАНІЧЧА

*Інтэрв'ю з доктар Людвікай Язукевіч-Асалкоўскай з Інстытута славістыкі Польскай акадэміі навук, сакратаром рэдакцыі часопіса "Studia Polono-Slavica Orientalia. Acta Litteraria".*



**Юры Трачук:** - *Спадарыня доктар, Вы амаль ужо дваццаць гадоў з'яўляецеся сакратаром рэдакцыі вельмі папулярнага ў навуковым свеце часопіса "Studia Polono-Slavica Orientalia. Acta Litteraria", прысвечанага польска-ўсходнеславянскім культурным і літаратурным сувязям, у тым ліку і польска-беларускім. Часопіс гэты знаходзіцца ў шматлікіх славутых бібліятэках усяго свету, між іншым, Сафійскага, Оксфардскага, Віленскага, Маскоўскага і іншых універсітэтаў. Скажыце, калі ласка, колькі слоў пра гісторыю часопіса.*

**Д-р Людвіка Язукевіч-Асалкоўская:** - Ініцыятарам стварэння гэтага часопіса быў Васіль Белаказовіч, а сама ініцыятыва ягонага ўзнікнення супадала з напрамкамі II Кангрэса польскай навукі, на якім, між іншым, было закранута пытанне неабходнасці пашырэння даследаванняў польскай літаратуры ў еўрапейскім, у тым ліку і славянскім, кантэксце. Часопіс гэты спярша быў заснаваны Камітэтам славяназнаўства, а пазней пераняў яго Інстытут славяназнаўства Польскай акадэміі навук і выходзіць ён з 1974 г. З таго ж часу сакратар I Аддзела ПАН прызначыў мяне на пасаду сакратара рэдакцыі гэтага часопіса, галоўным рэдактарам якога па сённяшні дзень з'яўляецца прафесар Васіль Белаказовіч. Мэтай нашага часопіса было пашырэнне і паглыбленне параўнальных даследаванняў, сінхронны і тыпалагічны падыход да сувязяў польскай літаратуры і культуры з іншымі славянскімі літаратурамі ў кантэксце еўрапейскіх, як у літаратуразнаўчым, так і параўнальным плане, з улікам розных іншых галін навукі, такіх як этнаграфія, фальклор, мовазнаўства, сацыялогія, псіхалогія, а нават філасофія.

*- Цікавяць нас перш за ўсё адлюстраваныя ў часопісе тыя навуковыя публікацыі, якія прысвечаны польска-беларускім культурным і літаратурным сувязям. Скажыце, калі ласка, якія вядомыя польскія вучоныя выступалі на старонках Вашага часопіса і якія навуковыя пытанні найчасцей іх хвалявалі?*

- Прадпасылкай рэдактара гэтай выдавецкай серыі, бо ўрэшце ператварыўся ён у выдавецкую серыю, было прыцягнуць з аднаго боку агульнавядомых спецыялістаў-вучоных у галіне славістыкі, а з другога - маладых навуковых супрацоўнікаў. Таму, побач з працамі медыевістаў і славістаў у дакладным значэнні гэтага слова, з'явіліся ў ёй таксама даследаванні ад'юнктаў, асістэнтаў, настаўнікаў, а таксама фалькларыстаў. Найчасцей на старонках нашай серыі публікаваліся навуковыя працы прафесара Францішка Сяліцкага, а затым Талесфара Пазняка з Вроцлаўскага універсітэта. Што датычыць фалькларыстыкі, дык поруч з прафесарам Сяліцкім, аўтарам прац, прысвечаных беларускаму фальклору і гісторыі беларускай літаратуры, выдадзеных, між іншым, як лекцыі для студэнтаў, у гэтай галіне выказваўся выдатны медыевіст, прафесар Рышард Лужны, які на старонках нашага часопіса друкаваў, між іншым, тэарэтыка-пазнавальная артыкулы, тэарэтычныя, звязаныя з даследаваннем сувязяў славянскіх літаратур ранняй эпохі, а таксама сваіх вучняў, у тым ліку спадарыні Лібурскай, працы якой былі прысвечаны духоўнаму вершу і глыбейшым сувязям не толькі польска-рускім ці старарускім, але і старабеларускай літаратуры з польскай. Шмат фальклярыстычных прац надрукавалі аўтары з Беласточчыны, фалькларысты аб'яднаныя вакол тыднёвіка "Ніва", між іншым, доктар Марыя Чурак, якая з'яўляецца таксама навуковым супрацоўнікам Інстытута славістыкі ПАН, затым спадар Мікалай Гайдук, Мікалай Врублеўскі, Сакрат Яновіч. Фальклярыстычную тэматыку закраналі таксама і іншыя даследчыкі, між іншым, прафесар Уладзімеж Вільчынскі з Зялёнай Гуры, які займаўся шырэй польска-беларуска-літоўскімі сувязямі, аналізаваў матыў літоўскай дайны "Крумкач" і яе вандроўку па польскай, беларускай і літоўскай тэрыторыі. Так што фальклорам займаліся найбольшыя знаўцы гэтага пытання. Побач з гэтым былі публікаваны дакументальныя працы. Зрэшты, рэдактар гэтай выдавецкай серыі клаў менавіта націск на пашану дакумента і часта мы друкавалі аднachасна з гістарычна-літаратурным каментарыем шмат архіўных матэрыялаў. Між іншым, з галіны не толькі беларускай літаратуры, але, напрыклад, прысвечаныя рускім, украінскім і беларускім пытанням на старонках паасобных часопісаў і газет міжваеннага і пасляваеннага перыяду, розныя бібліяграфічныя працы, а таксама тыя, якія выходзілі па-за межы літаратуры, як, скажам, гісторыкаў, у тым ліку выдатнага знаўцы доктара Юрыя Туронка, даследаванні якога адносяцца да пачатку XX стагоддзя, розных гістарычных здарэнняў таго часу, пачаткаў пашырэння беларускай асветы, беларускіх асветных і грамадскіх дзеячаў, што вярталі беларускую нацыянальную свядомасць. Гэтай тэме прысвяціў таксама адзін са сваіх цікавейшых артыкулаў прафесар Талесфар Пазняк. У нашым часопісе публікуюць свае працы даследчыкі цяперашняга сярэдняга пакалення, напрыклад, спадарыня Зоф'я Скібінска-Харыла з Варшаўскага універсітэта, якая надрукавала вельмі каштоўны артыкул пра пераклады "Пана Тадэвуша" на беларускую мову. Такім чынам на старонках нашай серыі займаемся таксама і пытаннямі тэорыі перакладу. Мы прыклалі ўсе старанні, каб разглядаць навуковыя пытанні не толькі ў вузкарэцэпцыйным, але і параўнальным плане, таму розныя аўтары разглядалі розныя пытанні з усялякіх бакоў.

*- Цікавіць нас таксама, хто з беларускіх вучоных супрацоўнічаў з Вашай рэдакцыяй?*

- На жаль, сам профіль выдавецкай серыі акрэсліў выбар паасобных аўтараў. У наш Інстытут прыязджала шмат вучоных з Беларусі, але свае працы надрукавалі толькі тры асобы. Гэта перш за ўсё выдатны знаўца эпохі асветніцтва прафесар Адам Мальдзіс з Акадэміі навук Беларусі, а таксама спадар Уладзімір Мархель, які заняўся пытаннем для нас блізкім, менавіта, сувязямі творчасці Уладзіслава Сыракомлі з беларускага пункту гледжання, зрэшты, з польскага боку гэтай праблематыкай займаўся таксама на старонках нашага часопіса польскі даследчык Уладзімеж Вільчынскі. Апрача таго, у апошнім нумары, у XIII томе, пытаннем польска-беларускай рэцэпцыі ўзаемных, так сказаць, дасягненняў, а асабліва сувязямі творчасці Зоф'і Налкоўскай занялася Святлана Мусіенка з Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Так што ўдалося нам здабыць толькі трох аўтараў, дарэчы, з увагі на профіль серыі. Але хачу сказаць, што калі ідзе пра беларускую літаратуру і культуру ды яе сувязі з нашай, то здаралася так, што прысвечаных ім прац з'явілася адносна найбольш. Тры тамы з'яўляюцца выключна беларускімі ў сумарным падыходзе да справы, а ў кожным з тамоў, за выключэннем бадай аднаго, чацвертага, прысвечанага выключна расійскай літаратуры, знаходзяцца працы, якія датычаць літаратурных, культурных і культурна-грамадскіх польска-беларускіх сувязяў. Так што, так неяк склалася, што Беларусь, нягледзячы на праграму, была добра прадстаўлена.

*- Праз некалькі месяцаў выйдзе з друку чарговы том Вашага часопіса, прысвечанага польска-беларускім культурным і літаратурным сувязям. Скажыце, калі ласка, колькі слоў пра змест гэтага тома.*

- Дык вось, згодна з профілем Інстытута славяназнаўства ПАН і гэтай выдавецкай серыі, якая абымае шмат тамоў і якую рыхтуе Сектар усходнеславянскіх літаратур, гэты том прысвяцілі мы выключна беларускім пытанням, да якіх падыйшлі мы ў аспекце інтэрлітэратурных і інтэркультурных сувязяў на лініі Беларусь-Польшча. Том вельмі аб'ёмісты, таму што налічвае 25 аркушаў. Змяшчае ён працы вядомых даследчыкаў, нярэдка тэарэтыка-пазнавальныя доследы. Побач з артыкулам прафесара Талесфара Пазняка, маем працы прафесара Францішка Сяліцкага, які з'яўляецца пастаянным супрацоўнікам нашай серыі, затым працу прафесара Васіля Белаказовіча, прысвечаную сувязям прафесара Мікалая Янчука, які родам з Паўднёвага Падляшша, з польска-украінска-беларуска-расейскім паграніччам. Акрамя таго маем вельмі цікавы дослед Юрыя Туронка, які выяўляе дзейнасць беларускага выдавецтва "Загляне сонца і ў наша аконца", якое існавала ў 1906-1914 гадах. I каштоўнай тут справай з'яўляецца тое, што аўтар уводзіць чытачаў кулуары гэтай выдавецкай суполкі і ў мерапрыемствы беларусаў у Пецярбурзе на пачатку XX стагоддзя, а таксама ў праблематыку супрацоўніцтва з палякамі. Працы Белаказовіча, Пазняка, Туронка - гэта тэарэтычныя доследы. Апрача таго друкуем працу Міхася Шаховіча пра народную загадку ва ўмовах польска-беларускага паграніччя, а таксама вашу, спрадар Юры, вельмі цікавую, якая будзе змешчана ў аддзеле "Крыніцы і матэрыялы" побач з працай Святланы Мусіенка з Гродна, прысвечанай польска-беларускім кантактам на працягу доўгай гісторыі да васьмідзесятых гадоў нашага стагоддзя і якая інфармуе, між іншым, пра здзяйсненні ў галіне літаратурных узаемасувязяў і філіяцый Зоф'і Налкоўскай на Беларусі, а таксама іншыя каштоўныя працы.

*- Вы з'яўляецеся аўтарам выдадзенай у 1980 г. вядомай манаграфіі "Фёдар Дастаеўскі ў творчасці Станіслава Бжазоўскага і Стэфана Жаромскага", якая мела каля 15 рэцэнзій у Польшчы і ў свеце. Скажыце калі ласка, над чым Вы цяпер працуеце.*

- Цяпер надалей працую над Дастаеўскім, зразумела, побач з дакументацыйнымі працамі, якія я заўсёды выконвала, так сказаць, паралельна, гэта значыць, распрацоўваю бібліяграфію польскай русістыкі. Хвалюе мяне перш за ўсё праблема тэорыі літаратурных родаў і відаў, гэта значыць, сувязяў Дастаеўскага, уплыву яго паэтыкі на сучасную літаратуру, як на славянскія літаратуры, так і на заходнееўрапейскія; дакладна кажучы, разглядаю адпаведныя катэгорыі паэтыкі паасобных пісьменнікаў. На жаль, так склалася, што нягледзячы на свайго роду захапленне беларускай літаратурай і культурай, я дагэтуль не выбрала сабе яшчэ для аналізу канкрэтнага беларускага пісьменніка з пункту гледжання тэорыі літаратуры, новай сучаснай паэтыкі. Затое занялася я Радзічкавым, Голдынгам і польскімі пісьменнікамі.

*- Вы родам з-пад Эйшышак, што на Віленшчыне, з беларуска-літоўска-польскага моўнага і культурнага паграніччa. Ваша бабуля Міхаліна Гатавецкая ведала беларускую мову, а цёткамі Вашага бацькі Яна Язукевіча былі сёстры Родзевічы, сярод іх звязана з Беларуссю польская пісьменніца Марыя Родзевіч, сын брата якой з'яўляецца вядомым беларускім паэтам, празаікам і драматургам Леапольдам Родзевічам. Маці жа Вашая з-пад Варшавы. Адным словам, Вы таксама, хоць пражываеце ў цэнтральнай Польшчы, з'яўляецеся чалавекам культурнага паграніччa, ведаеце, між іншым, літоўскую мову. Ваша дачка Ізабела з'яўляецца студэнткай беларускай філалогіі. Скажыце, калі ласка, як гэтае культурнае паграніччa паўплывала на фармаванне Вашай асобы і Вашай творчасці?*

- Так, трапна вы заўважылі. Сапраўды генетычныя крыніцы неяк паўплывалі на мае зацікаўленні. Ужо, пачынаючы з магістэрскай працы, я занялася параўнальна-гістарычным літаратуразнаўствам і гэта пэўна ўплыў майго паходжання з гэтак званага Віленскага вострава, дзе сутыкнуліся і па-суседску сумесна жылі і трывалі прадстаўнікі розных культур і народаў. Таму неяк жыве ўва мне імкненне вывучыць ўзаемныя складаныя сувязі паасобных літаратур, славянскіх з неслявянскімі і можа якраз таму занялася я Дастаеўскім. Стаўся ён добрым пачаткам для вывучэння сувязяў з іншымі літаратурамі. Я пачала вывучаць гэтае пытанне і ўжо 20 гадоў параўнальна-гістарычнае літаратуразнаўства з'яўляецца слабасцю майго жыцця і гэта бясспрэчна ўплыў майго месца нараджэння.

*- Шчыра дзякую Вам за размову і жадаю поспехаў у Вашай творчай працы.*

Гутарыў **ЮРЫ ТРАЧУК**

З польскай мовы пераклала **Яніна Трачук**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**09-02-1989 г.**

/.../ Польшча жыве "Круглым сталом". Перамовамі рэжымнікаў з апазіцыяй. Неяк халодзяць мяне пераказы мінчанаў аб тым, што БССРаўская палітычная паліцыя надта ж цікавіцца мною. Зрэшты, чаго здзіўляцца? /.../

**12-02-1989 г.**

Нарэшце ўтварылі - учора - той клуб; Беларускі клуб /сабраліся а 8,30 у пакоі "Нівы"/. Былі: Юрка Туронак, Міpановіч, Лёнік, Вапа, Ваўранюк, Алег Латышонак, Юрка Каліна, Міраслаў Пякарскі /трохі пазней/, Янка Максімюк /з братам?/... Ініцыявалі - Генік Вапа і Алег Латышонак; яны і апрацуюць праекты адозвы ды статута, на наступны сход, 11 сакавіка ў маёй кватэры /12,00/. Думалі мяне абраць за старшыню... Упераканаў іх, што Туронак будзе лепшым. Рэдактарам "Бюлетэня Беларускага клуба" - Янка Максімюк /мала ў яго энергіі, але мову някепска ведае/. Моладзь настойвала на пашыраным варыянце: Клуб беларускай палітычнай думкі. Непатрэбна. І, фактычна, звужала б праблематыку гэтым ды лішне правакавала б нашых ворагаў. І так усё палітыка!

Узгоднілі тэматыку штоквартальных сходаў: 1919 год у Беларусі, беларусізацыя ў дваццатыя гады, Заходняя Беларусь у перыяд 1939-41 г.г. Даклады будуць змешчаны ў "Кантакце".

Галоўны сэнс Клуба - фармаваць /беларускую/ дзеяцкую эліту ў нас. Перш за ўсё, маладую. Яна ўжо расце ў нас, таму - у добры час!

/.../ Учора - аднавіў "Белавежу" /было 13 удзельнікаў/. Таксама, ледзь выкруціўся ад старынявання ёй. Трэба ўцягваць іншых, а не замыкаць дзеяцкае кола ўсяго да некалькіх чалавекаў. Упераканаў, што лепшым будзе Чыквін; і трэба даць яму свабодную руку ў фармаванні праўлення.

Мушу абараняць свой час дзеля чытання і пісання. Даходзіць да таго, што тыднямі няма калі пасядзець за сваім літаратурным сталом. Гэта ж пярэчыць сэнсу грамадскай дзейнасці, пераўтвараючы яе ў праклянцце!

У пятніцу - з Іваноўскім - у аддзеле БГКТ у Саколцы. Марны гэты аддзел; у яго кіраўніцтве - адны начальнікі; нават шэф тутэйшай СБ /нейкі беларусападобенец... Малеша са Слоі?/. - А трэба ж свабодных, не звязаных умовамі высокіх пасадаў; рухавых, маладых энтузіястаў справы, замест пузачоў.

Расінскі і Міpановіч знакаміта палемізуюць з Семянякам у "Кур'еры"! А "Gazeta Współcz." ад 8-га - падтрымлівае ідэю арг. Таварыства польска-беларускай дружбы /- "Polska, Białoruś"/. Узнікае і такое!

Кажуць, Януш Анышкевіч як прэс-прадстаўнік "Салідарнасці", выступаючы 10-га TV гаварыў м.ін. і аб тым, што за "Круглым сталом" апазіцыя паставіла пытанне абароны правоў нацыянальных меншасцяў у ПНР /- Курань?/. Падставай, відаць, паслужылі дакументы тае Камісіі---.

Густа робіцца ад падзеяў.

**14-02-1989 г.**

"Ніва" пераўтвараецца ў беларускі палітычны часопіс. Чую, ад першага сакавіка будуць працаваць у ёй Янка Максімюк і Юрка Ляшчынскі /Міра Лукша - ужо!/. Адбудзецца радыкальная змена настрояў у рэдакцыі.

Гляджу на здымкі Вальнага Сойму Беларускіх Суполак у Вільні, на выданні "Кантроль", "Навіны...", "Студэнцкая думка", - і ажно вачам сваім не веру! Няўжо так хуткае, нечакана хуткае адраджэнне Беларусі? Усё будзе залежаць ад таго, наколькі беларускі нацыянальны рух здолее ўзначаліць жыццёвыя інтарэсы масаў. Ці не скурчыцца ён у культурніцтве...

*|Працяг будзе|*

*Тлумачэнні:*

*- Беларускі клуб падрыхтаваў грунт для ўтварэння пасля Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, першай палітычнай нашай партыі ў пасляваенны час;*

*- аднаўляючы "Белавежу" я дзейнічаў тады як член Прэзідыума Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства;*

*- Аляксандр Іваноўскі - тадышні намеснік старшыні Прэзідыума ГП БГКТ;*

*- Казімеж Расінскі - публіцыст "Кур'ера паранната"; прыхільнік польска-беларускага паразумення;*

*- Казімеж Семяняка - публіцыст "Кур'ера падляскага", аўтар - скандальнай - процібеларускай публікацыі "Pod różnymi krzyżami" і інш.*






**ВЕЛЬМІПАВАЖАНЫ СП-Р Я. МІРАНОВІЧ!**

Перасылаем Вам Зварот ад беларускіх арганізацый у Аўстраліі да Рады Міністраў і Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і ветліва просім Вас апублікаваць яго ў Вашай шаноўнай газеце "Ніва".

Думаем, што не адкажаце нашай просьбе. За Вашую працу, шчыра Вам дзякуем з пажаданнем найлепшых поспехаў на выдавецкай ніве і адраджэньні нашай Бацькаўшчыны.

Вітаем Вас і Вашых супрацоўнікаў з Раждажаством Хрыстовым і Новым годам.

**ПАЎЛА ГУЗ**
Мельбурн, Аўстралія

## ЗВАРОТ ДА РАДЫ МІНІСТРАЎ І ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Шаноўныя Спадары.

На працягу амаль паўстагодзьдзя Беларуская нацыянальная сьведамая эміграцыя, з непахіснай верай у лепшую будучыню вольнай Беларускай Рэспублікі, шанавала і перахоўвала нацыянальныя гістарычные і культурные традыцыі.

Праз увесь час жыцьця на чужыне Беларуская Грамадскасьць не страціла пачуцыця сваёй еднасьці са шматпакутным Беларускім Народам і з гонарам несла ў шырокі сьвет інфармацыю пра барацьбу Беларускага Народу за права быць роўным паміж роўнымі ў сусьветнай сямьі Народаў.

Нашы Бел-чырвона-белыя сьцягі з гонарам шугалі на Міжнародных Канфэрэнцыях і Зьездах, на маладзежных і скаўцкіх сустрэчах, на спартыўных спаборніцтвах, на публічных дэманстрацыях і на Беларускіх нацыянальных урачыстасьцях.

З асабліва вялікай пашанай мы адносіліся і адносімся да гістарычнага сымбалю нашай слаўнай мінуўшчыны і самабытнасьці, да нашага Гэрбу "Пагоня". Нашыя далёкія гэраічныя продкі пакінулі нам "Пагоню" ў спадчыну, з пэўнымі гэральдычнымі формамі і прыкметамі, як пуцяводную паходню ў будучыню.

Гэты старажытны сьвяты сымбаль нашай незалежнасьці ніхто не мае права ні скажаць, ні пераіначваць, ні падмяняць.

Пагэтаму мы ўстрывожаны тым, што сучасны Урад Рэспублікі Беларусь, ужывае як гэрб Рэспублікі Беларусь выяву коньніка з Латарынгскім крыжам на шчыту, а гэта ні ў якім разе не "Пагоня". Сапраўдная старажытная "Пагоня" мае на шчыту Ярылаў Крыж, ці як яго часам называюць "двукрыжжа" з шасцьцю роўнымі канцамі.

Нас дзівіць і непакоіць: Што мае супольнага з нашай "Пагоняй" сымболіка далёкай ад Беларусі, як культурна, так і гістарычна, Латарынгіі? Нідзе і ніколі гэты Латарынгскі крыж не красаваўся на шчытах "Пагоні", ні Вялікага Княства Літоўскага, ні на "Пагонях" старажытных гэрбоў шматлікіх гарадоў Беларусі. Падобны да Латарынгскага крыж існуе ў сымболіке Славакіі, таксама крыж Сьвятой Ефрасініі Полацкай вельмі падобны да Латарынгскага крыжа, але не зусім такі. Аднак, справа не ў гэтым, а ў тым, што ні Латарынгія, ні Славакія, ні Ефрасіньня Полацкая, ні тым болей Князь Ягайла, не мелі ніякага дачыненьня да гэральдычнага фармаваньня "Пагоні".

Таму, мы, прадстаўнікі Беларускага замежжа, звяртаемся да Вас, шаноўныя Гаспадары з Рады Міністраў і Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь з заклікам: Неадкладна перагледзець гэтую справу і выправіць закраўшуюся недарэчную памылку, дзеля захаваньня нацыянальнага гонару і гістарычнай спадчыны. Хопіць таго, што нашы суседзі з усіх бакоў абкрадалі нас на працягу стагодзьдзяў, давайце не будзем абкрадаць самі сябе!

На заканьчэньне трэба дадаць, што мы абсалютна ўпэўнены, што кожны нацыянальна сьведамы Беларус, незалежна ад свайго мейсца жыхарства, зьдзіўлены і заклапочаны гэтым незразумелым і недарэчным падыходам да нацыянальнай сымболікі.

Выказваем Вам падзяку загадзе, за пазытыўнае вырашэньне гэтага пытаньня!

Не забывайцеся, што воляй Лёсу, на Вас узложана вялізарная адказнасьць перад Гісторыяй Беларускай Нацыі!

Жыве Беларусь!

Ад імя беларускіх арганізацый у Аўстраліі падпісалі: Ул. Шнэк, А. Груша, П. Гуз, а. М. Бурнос, А. Шнэк, М. Нікан, Р. Шайпак, Ул. Сідлярэвіч.

*Тэкст звароту друкуем на мове арыгінала.*




**ЧАСТКА XXV**

Адзін з пяцідзесяцігадовых сялян сказаў мне наступнае:

„Вядомо, што людзі моцно напалохані, яны самы не ведают, на якім яны свеці, от таму і выступают проціў таго, што цяпер робіцца. Але мне здаецца, што пагаворат, пагаворат і ў канцы-канцоў перастанут. Забудуцца аб тым, што было калісь і прывыкнут да таго, што е цяпер. Вядомо, што беларус нічого кепского ні зробіт для гасударства. Мы можэм паміж сабою пагалташаваць, пашумець і ўсё на гэтым скончыцца. Але проціў панства то мы не выступім. У нас у крыві сідзіт паслушэнство. І ад гэтаго паслушэнства нікуды не ўцячэш. Вы кажэце, што тое, што цяпер е, то яно неабходнэ. Можэ яно і напраўду так е, я толькі ні панімаю, нашто нішчыць тое, што было добрэ. Нашто нішчыць бясплатну школу, бясплатнэ лячэнне, танны пронд і бензін. Калі за дэмакратыі жонд меў на ўсё гэта грошы, то чаму ні мае сягодня? Мы ж як працавалі так працуем, як плацілі падаткі то плацім, то куды гэто ўсё дзеласё? От гэтаго я ніяк ні пайму. І ніхто мне гэтаго не тлумачыт. Я ні раз вазьму і паслухаю таго Курання. Ну і што з таго слухання? Выслухаю я яго, і што? Я после гэтых його аб'ясненняў станаўлюся дурнейшы, чым быў раней. То чы ж яны не мают такіх палітыкаў, каторы выяснілі б усё так, каб я ўсё панімаў? Я думаю, што яны спецыяльно так муцят нам у галовах, каб просты чалавек нічорта ні панімаў і каб можно было з ім зрабіць усё, што хочэш?"

# БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

З размоў з маладымі, аб якіх я ўжо гаварыў, вельмі цяжка дамагчыся пашыранага выказвання. Запамяталася мне дэкларацыя васемнаццацігадовага хлопца:

„Калі скончыўся камунізм, мне было пятнаццаць лет. Я мала што з тых часоў помню. Знаю, што тады было вельмі цяжко выехаць за граніцу, што ўсім кіравала партыя і што ўсе ўсіх баяліся. Вельмі сурова была тады міліцыя і розныя кантролі, якія не пазвалялі, каб чалавек мог сабе слабодно зарабіць грошы. Цяпер то мне здаецца, жывецца зусім па-другому. Адным словам жыві як хочэш і як умееш. Я думаў, ці ісці на вышшу учэльню, але калі даведаўся, што тые, хто закончыў універсітэты зарабляют па два мільёны злотых, то пастанавіў далей не вучыцца. Яшчэ рок таму то гандляваў далярамі, але гэто слабы заробок. А цяпер то ўжо вогуле гандлем далярамі не можна займацца, бо на гэтом то толькі траціцца. Я пробаваў зарабляць па-рознаму. Даходы былі слабыя. Урэшце знашоў спосаб і зарабляю па восем-дзесяць мільёнаў у месяц. Як гэто раблю? Вельмі прооста. Магу вам сказаць. Я купляю ад рускіх на базарах заходнія папяросы і важу іх у Шчэцін. Там прадаю іх гуртам і зарабляю на гэтым больш-менш два мільёны за адну паездку. Ну і так еджджу па штыры-пяць разоў у месяц і заробляю да дзесяці мільёнаў. То на што мне тая наука, катора дае заробок да двох мільёнаў? А колькі е такіх, што вогуле не знаходзят работы і ідут на засілак. Жыву я скромно, не хаджу па рэстарацыях, бо там то можно ўсё прапусціць. Водачка ні аднаго згубіла. Збіраю грошы, каб купіць кватэру, каб магчы жыці з працэнтаў. Калі прызнацца, то баюся толькі аднаго, каб не закрылі да рускіх граніцу з іх таварамі. Калі закрыют граніцу, то тады будзе клёпс з маімі заробкамі. Аде здаецца мне, што калі ні будзе папяросаў, то будзе штосьці другое. Я ўжэ досыць добрэ разбіраюся ў базарных дзелах і думаю, што якся параджу. Вядома, што капіталізм гэто рынок. А як рынок, то і базар. У мяне е брат, каторы ўжэ жанаты. Ён закончыў беластоцкі універсітэт. Працуе ўжэ пяць лет і зарабляе не цэлы тры мільёны. У яго ніколі няма грошай. Часта сварыцца з жонкаю, бо не можа звязаць канцоў з канцамі. То я ў параўнанні з ім жыву як кароль. Я нават не гавару яму, колькі зарабляю, бо мне нілоўко. Мне здаецца, што капіталізм гэто добра сістэма. Але ён толькі для дзелавых, а ні для раздзяваў. Хто дзелавы, той будзе жыць па-панску, хто раздзява, той будзе паўздыхаць. Я думаю, што так яно і павінно быць на свеці.

Часам думаю, каб рвануцца на захад. Мне здаецца, што я і там сабе парадзіў бы. Там гандаль яшчэ больш развіты, чым у нас. Калі толькі ўдасца, то папробую паехаць і застацца ў Германіі або ў Швецыі. Разнюхваю гэту справу, можэ ўдасца. Ну, а вы колькі зарабляеце, хіба таксама не вельмі раскошна, бо вядомо, як гэто, калі чалавек на панствовый рабоце".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**





© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

Зорка
Старонка для дзяцей

ВАСІЛЬ БІРУКОЎ

## ДАВАЙ ПАМЯНЯЕМСЯ

*(КАЗКА)*

Ішоў Бабёр з Зайцам з лясной школы. Падышлі да ручая. Паглядзеў Заяц уніз:

- Ой! Як жа я тут перайду?

- Вунь па кладачцы ідзі, - сказаў Бабёр.

- Ага, ідзі... З яе і зваліцца нядоўга. А я плаваць не ўмею...

Пастаялі, падумалі.

Пагледзеў Заяц на Бабровы партфель і кажа:

- Ведаеш што? Давай мяняцца партфелямі!

Бабёр засмяяўся:

- Хітры ты. Твой стары, аблезлы. А мой новы, прыгожы.

Заяц паварушыў вушамі.

- Ды мне ж ён не назусім. Вось ручай пяройдзем - і размяняемся.

- Не ўцямлю, навошта мне? - здзівіўся Бабёр.

Пагледзеў Заяц уніз, спахмурнеў:

- Разумееш, калі я ўпаду з тваім партфелем, ты мяне ратаваць кінешся. А калі...

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

На ўроку заалогіі настаўнік пытае ў Сяргея:

- Якія жывёлы адносяцца да падкласа караняножак?

Хлопчык адказвае:

- Жывёлы, у якіх няма ножак, а ёсць карэнне.

***

Маці згатавала смачную страву і кліча малога Алёшу:

- Сынок, хадзі есці селядзец "пад футрам".

Малы падышоў, пагледзеў ды кажа:

- Што ты выдумала, мама? Пад якім футрам? У футра ж ёсць рукавы!

***

Настаўніца:

- Віця, ты ведаеш, чаму вакол Сатурна круг, як кольца?

Віця:

- Ведаю. Бо Сатурн капялюш надзеў.

***

Настаўнік геаметрыі:

- Дзяжурны, хто сёння адсутнічае ў класе?

Вучань:

- Школьныя прылады!

***

- Колькі ў каня ног?

- Калі стаіць - чатыры, а калі бяжыць - як палічыць?



*Зімою ў Бельску.* **Фота Аліны Ваўранюк**

# ПАТАНУЛЫ ГОРАД ЛІН БАЛА

*(УЭЛЬСКАЯ КАЗКА)*

Кажуць старыя людзі, што на месцы возера Бала быў калісьці прыгожы горад. Але цяпер ён схаваны ў вадзяной магіле. І зрэдку ў цёмнай вадзе возера можна бачыць не толькі срэбную рыбу і зялёнае багавінне, але і шырокія вуліцы, на якіх стаяць прыгожыя палацы. Час ад часу з возера можна пачуць званы, якія звоняць то як на малітву, то як на свята. Але званы гэтыя можа пачуць толькі чалавек, які мае музычны талент. Часцей за ўсё ноччу ці позным вечарам.

Некаторыя рыбакі кажуць, што ціхімі начамі яны чулі чарадзейны спеў, які нагадваў звон:

*Ун, даў, тры, педвер, памп,*
*Ун, даў, тры, педвер, памп.*

У адным з палацаў таго горада жыў калісьці прынц Уэльса, якога звалі Тэгід. Быў ён вельмі жорсткі і злы. Пра яго казалі: "Захоча - заб'е, захоча - даруе жыццё".

Аднойчы летняй раніцай ён пачуў голас:

- Прыдзе помста.

І тут жа другі:

- Калі?

- У трэцім пакаленні.

Пасмяяўся ён над гэтым і забыўся на гэтыя словы.

Прайшлі гады. Жонка нарадзіла яму трох сыноў. Калі яны выраслі, зрабіліся яшчэ больш жорсткімі, чым ён. Зноў гуляў ён ранкам па садзе і пачуў тыя ж словы:

- Прыдзе помста.

- Калі?

- У трэцім пакаленні.

І зноў пасмяяўся ён над пагрозай. Ішоў час. І аднойчы палац напоўніўся крыкам хлопчыка, які нарадзіўся ў старэйшага сына. Адразу ж паслалі па музыку, які павінен быў іграць на фэсце, што наладзілі ўвечары таго ж дня.

У палацы было шмат народу. Высакародныя лорды, прынцы і прынцэсы. Ніколі яшчэ палац не бачыў столькі гасцей. Калі музыка пачаў іграць, усе кінуліся ў скокі, забыўшыся на віно і ежу. Здавалася, што нават срэбныя падсвечнікі і залатыя кубкі танчылі з усімі. Бліжэй да поўначы, калі быў перапынак у танцах, і музыка адпачываў, ён пачуў голас, які шаптаў яму проста ў вуха:

- Прыдзе помста.

Ён павярнуўся і ўбачыў маленькую птушку, якая махала галавой і клікала яго за сабой. Пайшоў за ёй, але выйшаўшы з палаца спыніўся. Птушачка клікала яго далей і пела:

- Прыдзе помста, прыдзе помста...

Стары музыка спалохаўся, падумаўшы, што калі не пойдзе за птушкай, з ім здарыцца нешта жахлівае. А птушка вяла яго па самых бяспечных сцежках. Калі ж ён спыняўся, яна звала яго сумным голасам:

- Прыдзе помста, прыдзе помста.

Нарэшце птушка прывяла музыку на ўзгорак далёка ад палаца. Стары музыка стомлена сеў, а птушка змоўкла. Толькі вецер шамацеў у траве. Музыка падумаў, што зрабіў дурасць, так далёка адыйшоўшы ад палаца, а пакінуўшы там сваю ліру... Месяц схаваўся за чорную хмару, зрабілася зусім цёмна. Стомлены музыка прылёг на траву і заснуў.

Раніцай ён прачнуўся, аглядзеўся і не паверыў вачам. Там, дзе ўчора стаяў палац, разлілося вялікае возера. Па цёмнай вадзе да яго плыла пакінутая ліра.

З англійскай пераклаў
**АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ**

## Вершы Віктара Шведа

### МО КАРМІЦЬ ТЫ БУДЗЕШ КВЕТКІ?

Мама палівае браткі,
Дачанька глядзіць:
- Што ты робіш, мая матка?
- Даю кветкам піць.

Запытала мама дзетку,
Чаму там тырчыць.
- Пачакаю, можа кветкі
Будзеш ты карміць.

### СКАЖЫ, МАКАР, ДЗЕ ЗАНЗІБАР?

- Адкажы нам, Макар,
Дзе ляжыць Занзібар?
Пастаяў нейкі час
І даў хлопец адказ:
- Я яшчэ не дарос,
Каб туды ўторкваць нос.
Не магу нат мець мар,
Каб мог знаць кожны бар!

### ПЕРАЦ СЫПЛЕ, А НЕ ШЧЫПЛЕ

Бабуленька варыць суп
І тлумачыць малой Верцы,
Колькі трэба бульбы, круп,
Каб быў смачны на талерцы.

- А на вока перац, соль
Я на заканчэнне сыплю...
- І не мучыць цябе боль,
Вока анічуць не шчыпле?..

### РАСЧАРАВАННЕ

Тату свайго малы сынок паклікаў
З дзіцячаю хітрынкай ўваччу:
- Калі я буду ўжо такі вялікі,
Каб мог рабіць, што толькі захачу?

А тата адказаў свайму Антосю:
- Ці гэта, мілы, можаш уявіць,
Яшчэ дасюль нікому не ўдалося
Так доўга на зямліцы гэтай жыць!

### ГАВАРКАЯ РАЯ

Заўвагу ў дзённіку дахаты
Прынесла доня свайму тату:
"Сцвярджаю я, што ваша Рая
Занадта ў школе гаваркая!"
Татулька раптам поўны злосці:
Дык трэба адпісаць тут штосьці!
Праз хвілю напісаў таксама:
"Паслухалі б вы яе маму!"

### ВЕРКА ЕСЦЬ НАЖОМ З ТАЛЕРКІ

Татулька лае доню Верку:
- Чаму нажом ясі з талеркі?
Хачу сказаць табе, дарэчы,
Што можаш нават рот скалечыць!
Глянь, мы ж усе відэльцам елі,
Ляжыць твой на стале відэлец...
Тату адказвае малая:
- Дык мой відэлец... працякае!

### ЛЕПШ КАНЯ МЕЦЬ, ЧЫМ МАШЫНУ

Растлумачыў тата сыну:
- Лепш каня мець, чым машыну.
Калі хочаш выпадкова
Ты каню падбіць падковы,
Дык адводзіш спакваля
Коніка да каваля.
Ён не ўводзіць цябе ў зман
Мноствам дарагіх заган.

### АЎТОБУС ПАВЕСІЎСЯ НА ДРОЦЕ!

Упершыню маленькі Федзя
Тралейбус гарадскі угледзеў.
Ён выклікаў яго дзівоту:
Спалучаны быў з тоўстым дротам.
Меў Федзя ўражанняў багата
Вярнуўшыся ізноў дахаты.
- Аўтобус бачыў я там, цёця,
Які павесіўся на дроце!



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# НА АДКРЫЦЦІ ШКОЛЫ Ў ОРЛІ

17 снежня мінулага года адбылося вельмі ўрачыстае адкрыццё новай, вялікай, прыгожай школы ў Орлі. Урачыстасць спачатку была крыху нудная - доўга прамаўлялі дарослыя. Здавалася нават, што яны забылі, хто тут самы галоўны. А галоўнымі героямі дня, безумоўна, былі дзеці і моладзь - вучні арлянскае школы. Гэта ж для іх пабудавалі дарослыя будынак, не для сябе!

Урэшце, аднак, кончыліся нудныя прамовы і ўся разлезлая афіцыйшчына, пачалася мастацкая частка праграмы. І тады паказалі сябе вучні. Вельмі прыгожа спявалі, чыталі вершы, танцавалі і паказвалі кароценькія сцэнкі. Вельмі стараліся і хваляваліся, бо ж на іх глядзелі не толькі нейкія невядомыя госці, але і мамы з татамі - поўны вялікі калідор людзей.

Мушу прызнацца тут, што хваляваліся маладыя артысты непатрэбна - усё атрымалася цудоўна. І выступленні арлянцаў і міні-канцэрт менчукоў - вучняў мастацкае школы (прафесіяналаў). Шкада, што вы гэтага не чулі. Паглядзіце прынамсі на здымкі, каб мець сякое-такое ўяўленне пра тое, што адбывалася ў Орлі 17 снежня.

**(ак)**

*1. - Я зусім не бянтэжуся, хаця стаю перад вялікай залай поўнай людзей!*
*2. - Я пагляджу, ці варта мне будзе хадзіць у гэту школу...*
*3. Гэта не дождж пайшоў. Нашыя парасонікі - толькі рэквізіты.*
*4. Маладыя прафесіяналкі з Менска.*
*5. Падчас "прадстаўлення" выступаюць кошкі і мышкі.*
*6. - Калі мая сяброўка чытае верш, я ўпэўнюся, ці глядзіць на мяне мая мама.*
*7. Не ўсе пільна сачылі за нуднымі прамовамі дарослых; мелі больш цікавы занятак.*

**Фота Міколы Ваўранюка**






















© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

ЗДАРЭННІ * КУР'ЁЗЫ * СЕНСАЦЫІ * ФАКТЫ

# ЛЮДЗІ З МАЎЗАЛЕЯ

*Размова журналіста часопіса „Совершенно секретно" Дзмітрыя Ліханава з дырэктарам Маскоўскай навукова- даследчай лабараторыі біялагічных структур, акадэмікам Сяргеем Дзябовым.*

**Цела Уладзіміра Леніна прывезлі ў Маўзалей на шосты дзень пасля яго смерці. Ці ўжо тады вядомы быў састаў бальзамічнага рэчыва?**

— Ленін памёр 21 студзеня 1924 года. У Горкі выклікалі ўрачоў, сярод якіх знаходзіўся шыракавядомы паталагаанатом, акадэмік Алег Абрыкосаў. Ён тут жа на месцы зрабіў першапачатковае бальзаміраванне цела. У вены ўліў фармалін з дабаўкамі хлорыстага цынку. Гэтакім чынам можна было захаваць цела на кароткі час.

Неўзабаве труну з целам Леніна перавезлі ў Калонны зал Дома прафсаюзаў у Маскве. На шчасце, якраз у той час на дварах быў вялікі мароз. У памяшканнях выключылі ацяпленне. У сувязі з тым змены ў тканках адбываліся вельмі павольна. У сакавіку пацяплела. Далейшае захаванне цела Уладзіміра Ільіча ў такіх умовах было пад пагрозай. У Маскву запрасілі харкаўскага прафесара В. Вераб'ёва, які ведаў спосаб на перахоўванне анатамічных прэпаратаў. Вучоны не адразу згадзіўся прыступіць да працы. У той час па ўсёй гісторыі медыцыны яшчэ не быў вядомы спосаб на бальзаміраванне цэлага цела. У канцы канцоў прафесар біяхіміі Барыс Збарскі і анатом В. Вераб'ёў прыступілі да эксперыментаў.

**— А як жа захаваліся егіпецкія муміі або старэйшыны Кіеўска-Пячэрскай лаўры?**

— Гэта зусім не тое. Егіпецкія муміі насычалі смоламі і сушылі. Што датычыць „старэйшын", дык яны захоўваюцца дзякуючы сухому паветру і пясчанаму грунту, у якім знаходзяцца.

Помню, у канцы пяцідзесятых гадоў у прэсе паявіліся інфармацыі, што ў Рыме падчас будаўнічых работ выкапалі старажытную грабніцу з добра захаваным целам маладой дзяўчыны. Разам з тадышнім дырэктарам нашай лабараторыі С. Мардашовым і А. Паўлавым мы паехалі ў Італію, каб на ўласныя вочы ўбачыць і больш дакладна даведацца пра гэтую археалагічную знаходку.

Прыехалі, а нам кажуць, што незвычайнай знаходкі ўжо няма, яна рассыпалася ў прах. Яе цела захоўвалася на працягу шматлікіх стагоддзяў толькі дзякуючы сухому грунту і таму, што да яго не пранiклі хістанні тэмпературы.

Што датычыць работ па бальзаміраванню цела Леніна, дык гэта зусім другое. Цела намочвалі мы бальзаміруючым растворам, які выводзіць ваду з клетак, а тканкі захоўваюць сваю структуру ды спружыністасць. Рэчыва мае некалькі характэрных уласцівасцяў, між іншым, супрацьдзейнічае развіццю бактэрый, затрымлівае аўтоліз, гэта значыць распад бялкоў.

Збарскі і Вераб'ёў на самым пачатку сваіх доследаў не маглі прадбачыць, якая будзе канчатковая формула бальзаміруючага рэчыва. Выпрацавалі яе значна пазней — у пачатку пяцідзесятых гадоў.

**— Ці праводзілі нейкія рэканструкцыі ў сувязі з пасмяротнымі зменамі на целе Леніна?**

— Невялікія. Крыху папраўлі бровы і падгрымліравалі скуру на руках.

**— Ленін памёр у фрэнчы, а ў Маўзалеі яго можна пабачыць у касцюме. Адкуль узялі той касцюм?**

— У фрэнчы ляжаў Ленін у Калонным зале і ў Маўзалеі да сярэдзіны шасцідзесятых гадоў. Як вядома, Ленін звычайна адзяваўся ў касцюм. І таму яму пашылі такое ўбранне.

**— Пытанне, на якое адказ хацела б ведаць многа людзей. На як доўга дасца захаваць цела Леніна? Ці ёсць нейкія межы?**

— Ад дваццаць чацвертага года... гэта ўжо шэсцьдзесят дзевяць год. Я працую ў лабараторыі ад пяцьдзесят другога года. І якіх-небудзь змен на яго целе не бачу. Кожныя чатыры гады збіраецца ўрадавая камісія, якая складаецца з выдатных урачоў і яна робіць дакладныя агледзіны. Як дагэтуль, усё ў норме. Доследы пацвярджаюць, што астанкі правадыра Кастрычніцкай рэвалюцыі могуць захоўвацца стагоддзямі.

**— Ці маглі вы спадзявацца, што ў Маўзалей прывязуць яшчэ адзін саркафаг? — З целам Сталіна?**

— Так. Цела Сталіна мы бальзаміравалі ў дзве гадзіны пасля яго смерці. На працягу трох месяцаў падрыхтавалі яму спецыяльны саркафаг. Распараджэнне аб бальзаміраванні цела выдалі адразу. Работнікі лабараторыі загадзя былі напагатове.

**— Маўзалеі існуюць і ў іншых дзяржавах. Ці лабараторыя супрацоўнічае з падобнымі замежнымі ўстановамі?**

У сорак дзевятым годзе памёр Георгій Дзімітроў. Урад Балгарыі звярнуўся ў ЦК з просьбай, каб бальзаміраваць цела. Палітбюро даручыла гэта нашай лабараторыі. Бальзаміраванне рабіў Збарскі ў Сафіі. К. Готвальда бальзаміравалі ў чэшскай Празе. У 1969 годзе памёр Хо Шы Мін. Бальзаміраванне пачалі ў Ханоі. Якраз тады амерыканскія самалёты бамбардзіравалі в'етнамскую сталіцу. Каб закончыць аперацыю, цёмнай ноччу цела памёршага ды неабходнае медыцынскае абсталяванне перавезлі ў джунглю. І такое здаралася.

Варта дадаць, што і па сённяшні дзень спецыялісты з нашай лабараторыі наведваюць Маўзалей Хо Шы Міна. Яны бальзаміравалі таксама цела Агасціньо Нету ў Анголе.

**— Ці зараз формула бальзаміравання шыракавядомая ў свеце?**

— Не. Яе захоўваем у таямніцы. Бальзаміраванне можам зрабіць па заказу. За межы ўспомненае рэчыва возім у гатовым відзе.

**— Колькі каштуе такая паслуга?**

— Вельмі дорага. Толькі першапачатковае бальзаміраванне менш каштоўнае.

**— На маўзалей „ідуць" вялікія грошы. Як вы бачыце мэтазгоднасць захавання цела Леніна на доўгія гады?**

— Я лічу, што Маўзалей —гэта наша святыня. Аднак ужо цяпер многія людзі гэтага не разумеюць.

Апрацаваў
**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

## КАСЯК НА "П"




**Управа:** 1/ каралеўскі дом, 2/ выхавацель, настаўнік, 3/ барс /драпежнік/, 4/ горад каля Берліна, вядомы з пасляваенных пагадненняў паміж альянтамі, 5/ вакол цябе, але яго не бачыш, 6/ кароткі перапынак.

**Улева:** 7/ мезенец, 8/ належны стан, устаноўлены лад, пэўная паслядоўнасць, 9/ папярэджанне пагрозай /пачынаецца постам/, 10/ дадатковы смак, 11/ участак поля пад пасевы, 12/ звычайная мова.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на касяк з 48 н-ра. **Управа:** горад, ганарар, гаварун, гераізм, гідрант, галлё. **Улева:** доказ, дадатак, дамасед, дубавік, дзяркач, гніль.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Галена Тапалянская** з Трасцянкі і **Лукаш Пацэвіч** з Беластока.

## КАГО ЧЫТАЮЦЬ У "НІВЕ"

Выпісваючы і разносячы людзям "Ніву", шмат я наслухаўся як пра самую газету, так і пра яе журналістаў. Ёсць сярод гэтых выказванняў характэрыстыка газеты, пахвала і крытыка.

На тым абшары, дзе я разношу газету найлепш чытаюць публікацыі Яна Максімюка, Аляксандра Масімюка, Антона Міранов
іча і Міры Лукшы /асабліва/. Падабаюцца чытачам Дзед Антон і вядома Віктар Швед. Вельмі шкадуюць, што перастаў пісаць у "Ніву" дзядзька Хведар Хлябіч. Падабаліся чытачам таксама сенсацыі савецкай разведкі Яна Целушэцкага. Малодшаму пакаленню - Алег Латышонак са сваім "Балаховічам". Высокую ацэнку атрымаў і Мікола Ваўранюк. Адным словам - новыя працаўнікі рэдакцыі.

Не талеруюць чытачы Алеся Барскага. Кажуць, што нядаўна лічыў ён сябе цвёрдым камуністам, смяяўся з кожнай рэлігіі, а слова Бог пісаў малою літараю. Цяпер жа, калі камуна развалілася, стаў ён не менш цвёрдым прыхільнікам капіталістаў - таму менавіта цяжка яго чытаць і прыймаць усур'ёз тое, што ён піша. Таксама ж і Сакрат Яновіч не цэняцца прыхільнасцю чытачоў. Хто пачне чытаць яго мініяцюру, не зможа яе дакончыць. Жыхары вёскі Грабавец у вялікім жалі да яго за ўступ да кнігі Васіля Петручука "Пожня".

Людзі ў маёй тэрыторыі дапытваюцца таксама, хто напісаў "Геаграфію..." Адказваю ім, што міфаман. Напісана там, што нічога не зразумець.

Прыхільнасцю ў чытачоў карыстаецца наогул маладое пакаленне працаўнікоў "Нівы". Але, прыкладам, нядаўна адна сялянка з Тапаркоў вельмі хваліла і Мікалая Гайдука за ягоныя гістарычныя нарысы. Значыць і наш зямляк на "пачотнай лісце".

Чытачы "Нівы" не надта любяць доўгія і расцягнутыя публікацыі, напрыклад "Другое чытанне" Яна Чыквіна, хаця самога Яна Чыквіна і яго паэзію паважаюць. Незразумелымі для чытача аказаліся вершы К. Вайтылы. Мне думаецца, што калі б я напісаў такія вершы - рэдакцыя выкінула б іх у сметнік. На гэтым і закончу.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

Ад рэдакцыі: Прыгадваем, што погляды аўтараў публікацый неабавязкова супадаюць з меркаваннямі самой рэдакцыі.

### "НІВА" З КАЛЕНДАРОМ

на 1993 год будзе прадавацца ў кіёсках "Рух" да канца гэтага месяца. Можна яе купіць таксама і ў нашай рэдакцыі.

Скажыце аб гэтым сваім суседзям і знаёмым!


Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1993 r. upływa 20 lutego 1993 r.
2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 39 000 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. w I kwartale 1993 r. wraz z wysyłką wynosi 4000 zł., a kwartalnie - 52000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.


© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# МА КАТ РАЗМЫ

**ВІКТАР СТАХВЮК**

Наўздзіў лоўкі. У час гнусны
Зашнураваў свае вусны.
І падсыпаў яшчэ перцу
У халадзільнік здаўшы сэрца.

**ФАКС**

Трывожны клопат
Чужы шопат.

**СІДАР МАКАЦЁР**

## ЦЯЖКА СКАЗАЦЬ, ЧАМУ...

Я на цябе глядзеў,
Ты на мяне глядзела,
Нечага я хацеў,
Нечага ты хацела.
Месяц кудысь прапаў,
Знічкі кудысь апалі,
Дзесьці ліхтар мільгаў,
Дрэвы ў начы дрыжалі.
Дзесьці сабака: "Гаў!"
Дзесьці карова: "Му-у!".
Штосьці я не сказаў,
Цяжка сказаць, чаму...
Снег паміж нас ляцеў,
Вея, як воўк, шалела.
Нечага я хацеў,
Нечага ты хацела.
Кот засяпаваў: "Мур-мур..."
Дзесьці ў дрымотнай хаце,
Грэе яго каптур,
Цёпла на печы спаці.
Дзесьці сабака: "Гаў!"
Дзесьці карова: "Му-у!".
Штосьці я не сказаў,
Цяжка сказаць, чаму...

**ЯНУСЬ МАЛЕЦ**

## СВАРКА

У адной вёсцы сварыліся дзве суседкі. Найчасцей усё канчалася тым, што, раз'ятраныя, паказвалі сабе голыя ...!

Людзі спачатку іх усведамлялі, але потым перасталі на іх звяртаць увагу.

Аднойчы кабеты сварыліся, лаяліся, а потым сталі адна да адной задамі.

Падыйшоў муж Зоські.

- Ідзі, вячэру вары!

- Не магу адыйсці, бо будзе яе праўда!

- Ну ідзі, я пастаю, - і спусціў нагавіцы.

Праз нейкі час суседка аглянулася.

- Га-га-га! Праўда мая! Вось я стаяла, і мне нічога, а табе за кару кішку выперла! Значыць, мая праўда.

З той пары не было ўжо сварак, Манька ўсё чакала, што Зоська сыдзе з таго свету хутка, з кішкай выпертай з натугі і злосці!

**АЎРОРА**




## ЛЁНІКАВА БАЧАННЕ СВЕТУ




ХТО ВЕДАЕ, ДЗЕ СЁННЯ ВІКТАР

**АМБРОЗ БІРС**

## БАЙКІ

**Недакладнае пытанне**

Суддзя з Найвышэйшага Суда сядзеў ля ракі. Да яго падыйшоў Падарожнік і спытаўся:

- Я б хацеў перабрацца цераз раку. Магу я скарыстацца гэтай лодкай?

- Так, - адказаў Суддзя. - Гэта мая лодка.

Падарожнік падзякаваў, сеў у лодку і паплыў. Але лодка аказалася дзіравай, і ён патануў.

- Бессардэчны! - крыкнуў Абураны Сведка. - Чаму ты не сказаў яму, што твая лодка дзіравая?

- Справа аб стане лодкі, - адказаў вялікі юрыст, - не ўзнімалася.

**Цень Палітычнага Лідэра**

Палітычны Лідэр шпацыраваў па вуліцы. Раптам ён заўважыў, што яго Цень шпарка пайшоў у процілеглы бок.

- Вярніся, падлюга! - закрычаў ён.

- Калі б я быў падлюгай, - адказаў Цень, паскараючы крок, - я б цябе не пакінуў.

З англійскай мовы пераклаў
**Алесь Кудраўцаў**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Паліцэйскі спыняе аўтамабіль і кажа вадзіцелю:

— Такую развалюху я нават у сне не назваў бы аўтамабілем.

— Я з гэтым згодзен, — адказвае вадзіцель, — таму ў мяне нават вадзіцельскіх правоў няма.

* * *

Пастаянны наведвальнік правінцыяльнага рэстарана незадаволена гаворыць афіцыянту:

— Як гэта вы маглі пусціць сюды цэлую банду п'яніц?

— Разумееце, сіньёр, — адказвае афіцыянт, — мы ўжо тыдзень не маглі збыць стары гуляш...

* * *

Ідзе пара.

— Скажы, — пытаецца яна, — ты мяне моцна кахаеш?

— Вядома. Я ж табе ўжо гаварыў, што на руках насіць цябе гатовы.

— А калі б я зараз упала, што б ты рабіў?

— Сказаў бы, што ў магазін прывезлі імпартныя боцікі.

* * *

Ідзе спектакль.

— Каб вас чорт узяў! — шэпча трагік. — Вы што, не бачылі таблічку: „За кулісы ўваход чужым забаронены!?"

— Бачыў! Але вы не ўяўляеце сабе, які жах агортвае адзінокага чалавека ў гэтай гіганцкай пустыннай глядзельнай зале...

* * *

— Ці не здаецца вам, — гаворыць пасажыр таксісту, — што трэба было б пачысціць ветравое шкло?

— Пэўна, трэба было б. Ды гэта нічога не дасць. Я забыў дома акуляры.

* * *

Надакучлівая наведвальніца, якая часта прыносіла свае графаманскія творы ў рэдакцыю, спытала ў рэдактара:

— Чаму вы патрабуеце, каб мае рэчы былі надрукаваны толькі на адным баку лістка?

— Гэта свайго роду кампраміс, — адказаў рэдактар.

— Кампраміс?

— Калі б мы маглі, мы б папрасілі вас не пісаць і на другім баку!

Падборку зрабіў
**ЯНКА ДАРОЖНЫ**




Дарагое Сэрцайка! Мой муж зрабіў з мяне пасмешышча на ўвесь наш невялікі гарадок. Не ведаю, куды ад людскіх вачэй падзецца.

А было ж такое каханне! Пачыналі з нічога. Бацькі і мае, і яго былі незаможныя. Няшмат дапамаглі. Спачатку жылі мы ў кавалерцы, там жа нарадзіліся і дзеці, двое іх было. Нешта дакуплялі, майстравалі, абсталёўвалі. Увесь час нешта абсталёўвалі. І было нам разам весела, хаця дзеці раслі і станавілася штораз цясней.

Так добра нам было гадоў дзесяць. А пасля мой муж спруціўся. Знайшоў сабе бабу, так званую „бюрву", з якой разам працаваў. І ўжо ад таго часу прапаў для сям'і. Цягаўся з той бабай усюды, ашукваў мяне, казалі людзі, што засталі іх, як кахаліся нават на рабоце.

Я вельмі перажывала, але прытваралася вясёлай і задаволенай жыццём. А што было рабіць?

Але так папраўдзе, дык у хаце перажывала я пекла. Муж наведваў нас ужо як госць, а не як клапатлівы бацька сям'і — з пакупкамі, адразу пасля працы. Цяпер вяртаўся позна ўвечары, а часамі і ўначы. Пераважна быў пад хмяльком, а найгорш, што пахла ад яго не толькі тытунём, але і яе парфумамі. Мне ад гэтых яго пахаў рабілася моташна. Я думала ўвесь час, дзе ён праводзіць час, дашуквалася кавярняных пахаў, хацелася думаць, што быў недзе ў кампаніі, мо нават у мужчынскай, але, на жаль, тых пахаў было штораз менш.

І тады мне сказалі пра ягоную „бюрву". Ну, даведалася, а яму і віду не падала. Часамі толькі іранізавала, калі на кашулі яго губную памаду заўважыла, а што я перажывала — гэта ўжо не да апісання.

Тая няшчасная „бюрва" хутка маім старым нацешылася. Знайшла сабе шмат маладзейшага і ўзяла яго да сябе (бо яна была разведзеная). Відаць быў ёй патрэбны чалавек на пастаянна, а мой не хацеў адыйсці ад сям'і.

Думала я, што мой муж нарэшце супакоіцца. Але дзе там! Відаць, вырашыў адыграцца на ёй. Лавіў дзяўчат дзе толькі мог. А ёй што было да яго? Яна жыла з маладым і, казалі, была закаханая. Найбольш пераймалася гэтай сітуацыяй я. У хаце муж стаў нязносны, а ў горадзе я баялася апынуцца сярод людзей. Адны абкідалі мяне пагардлівымі позіркамі, другія зараз жа хацелі інфармаваць мяне, дзе і калі апошнім разам бачылі яго з дзяўчынай. Мяне ўжо ніякія інфармацыі не цікавілі, бо гэта і так нічога не змяняла. Не буду ж я ганяць гэтых дзяўчат, калі ён іх любіць... Што б мне гэта дало?!

Але, Сэрцайка, прыйшла мне цяпер у галаву адна думка. А што, каб пераехаць у іншы горад? Мо, усё адмянілася б? Муж бы лёгка памяняў працу (ён — інжынер), мог бы працаваць прыватна, а я можа штосьці знайшла б (я — настаўніца). Даслоўна гэтыя думкі не пакідаюць мяне. Думаю пра іншы горад як пра нейкі рай. Ці добра я думаю, Сэрцайка?

**МАРТА**

Кепска, Марта, думаеш. У новым горадзе хутка знайшоўся б нехта, хто ведаў твайго мужа і яго пахаджэнні, а, зрэшты, ён і сам хутка выявіў бы свой „характар". І ўсё было б па-старому. Ніякага раю ў іншым горадзе няма. Гэта рай уяўны. Там жывуць такія ж людзі, як і ўсюды. Зрэшты, настаўніцы не будзе лёгка знайсці працу, можа толькі ў святліцы дзе.

Сядзі на месцы і гартуйся. Мо на старыя гады ён зменіцца. Але жыццё тым часам праляціць. Дык мо варта пашукаць іншае выйсце?..

**СЭРЦАЙКА**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016